№ 9 (3852)
4 лютага 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

ПАЛІТВЯЗНІ

## Аляксандр Лукашэнка даў знак, што можна вызваліць Бяляцкага. Прайшло 10 дзён...

Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з рэдактарамі некаторых беларускіх газет і інфармацыйных агенцтваў паведаміў, што нічога не ведаў пра тое, што асуджаны праваабаронца **Алесь Бяляцкі** выплаціў грошы, якія, згодна з прысудам, мусіў заплаціць у беларускую казну. Дырэктар БелаПАН **Алесь Ліпай** на сваё пытанне пра лёс Бяляцкага з вуснаў Лукашэнкі пачуў: *"Гэта сур'ёзны аргумент. Тут справа не ў палітыцы і не ў пазіцыі самога Бяляцкага. Клянуся вам, я яго не ведаў і не ведаю"*. Кіраўнік краіны зазначыў, што *"падаткі — гэта святое"*, і запэўніў, што, калі інфармацыя аб кампенсацыі шкоды пацвердзіцца, то будзе разгледжана пытанне аб вызваленні Бяляцкага. Ты не менш праваабаронца, намеснік прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, пачэсны грамадзянін Парыжа Алесь Бяляцкі ўсё яшчэ знаходзіцца за кратамі.



Нагадаем, 24 лістапада 2011 года суд Першамайскага раёна Мінска пакараў Алеся Бяляцкага пазбаўленнем волі на чатыры з паловай гады з канфіскацыяй маёмасці. Бяляцкага прызналі вінаватым ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры. Падставай для крымінальнага перасведу стала наяўнасць рахункаў у банках Літвы і Польшчы, адкрытых на імя Бяляцкага. Суд не ўлічыў, што сведкі на судзе пацвердзілі, што гэтыя грошы ішлі не асабіста Бяляцкаму, а на падтрымку тых беларусаў, якія пацярпелі ад рэпрэсій. Не было ўлічана і тое, што сума налічанага "ўрону" была пагашана за кошт добраахвотных ахвяраванняў грамадзян.

Мінула болей за два гады. Алесь Бяляцкі працягвае адбываць пакаранне ў Бабруйскай папраўчай калоніі №2. І на момант падрыхтоўкі гэтага нумара "Народнай Волі" да друку заставаўся там.

Кіраўнік калоніі падпалкоўнік **Аляксандр Какушын** адмовіўся ад каментарыяў. Але ў прыёмнай нам сказалі, што ніякай інфармацыі наконт вызвалення Бяляцкага яны не атрымлівалі.

У Дэпартаменце выканання пакаранняў намеснік кіраўніка ўстановы **Сяргей Працэнка** патлумачыў: *"Калі размова ідзе пра ўжыванне да Бяляцкага амністыі, то працэдура можа быць распачата толькі тады, калі з'явіцца закон аб амністыі. Калі размова ідзе пра памілаванне, то спачатку Бяляцкі павінен звярнуцца на імя прэзідэнта з прашэннем аб памілаванні. Адміністрацыя калоніі толькі прыкладае дакументы, якія характарызуюць асуджанага, і накіроўвае іх у Камісію па памілаванні. Калі будзе ўказ прэзідэнта — акт аб памілаванні, то Бяляцкага адпусцяць. Гэта працэс не аднаго дня, ёсць адпаведная працэдура. Ва ўсялякім разе мне ніхто ніякіх каманд не даваў"*.

Такім чынам, ці не застануцца словы пустым гукам? Ніякіх папер аб вызваленні Бяляцкага ні ў Дэпартаменце выканання пакаранняў, ні ў Бабруйскай папраўчай калоніі пакуль ніхто не бачыў.

**Любоў ЛУНЁВА**

БЛІЦ

*"Народная Воля" пацікавілася ў прадстаўнікоў буйнейшых прамысловых прадпрыемстваў краіны, як ім працуецца і ці задаволены яны ўмовамі працы і заробкамі?*

## Як вам працуецца?

**Сяргей ІОСІФАЎ, рабочы ААТ "Амкадор" — упраўляючая кампанія холдынга":**

— Усім пакуль задаволены. Працуем пяць дзён на тыдзень, іншы раз нават па суботах выходзім на працу. Заробкі прыстойныя — на жыццё хапае, у мяне нават атрымліваецца нешта адкладваць...

**Валерый БАРАВЫ, памочнік генеральнага дырэктара ААТ "Белшына":**

— Наша вытворчасць не спыняецца: працуем, можна сказаць, круглыя суткі, у нас трохзменны рэжым. Ёсць і пэўныя складанасці: значнага росту заработнай платы ў апошнія месяцы не назіраецца... У многім з-за таго, што ёсць праблемы з рэалізацыяй прадукцыі.

Людзі разумеюць сітуацыю. Вострых канфліктаў сацыяльнага характару (цьфу-цьфу) не адбываецца...

**Канстанцін ЛЯШКЕВІЧ, рабочы Мінскага трактарнага завода:**

— Мы зараз працуем поўны працоўны тыдзень, нават суботы рабочыя. Да Новага года ў нас былі вялікія канікулы, мы гулялі, а зараз адпрацоўваем... На чатырохдзёнку не пераходзім — нават размовы пра гэта не вядуцца.

Заробак? Расцэнкі крыху скінулі, таму сталі атрымліваць менш, чым было. У сярэднім у нас па цэху атрымліваецца пяць з паловай мільёнаў рублёў.

**Аляксандр АЎДЗЕЕЎ, начальнік упраўлення маркетынгу Мінскага падшыпнікавага завода:**

— Нармальна працуецца, усе пяць дзён на тыдзень. Продаж гатовай прадукцыі? Гэта сінусоіда — то лепш, то горш. Але настрой баявы. А як па- іншаму? За нас ніхто працу не зробіць...

**Ала ЦЯЦКО, работніца "Беларуськалія":**

— Цяпер ужо нармальна, не тое што было месяц таму! Цяпер у нас поўны працоўны тыдзень. Хоць, калі табе трэба, можаш пераходзіць на дзве трэці. Усе шахты працуюць па графіку. Рытмічна ідзе адгрузка. Але цэны на сыравіну іншыя, меншыя... "Уралкалий" пераблытаў нам карты. Праўда, паступова праца наладжваецца, у нас зараз вельмі добры новы дырэктар, выдатны дырэктар, мы нават трынаццатую зарплату чакаем, уяўляеце? І перад Новым годам далі прэмію па мільёне рублёў!

**Аляксандр СТУКАНАЎ, намеснік дырэктара ААТ "Магілёўхімвалакно":**

— Разумееце, такія пытанні па тэлефоне не абмяркоўваюцца. Але і сустракацца з журналістам асабіста з гэтай нагоды я не бачу неабходнасці. Таму што аб'яднанне працуе нармальна: прадукцыя выпрабляецца, зарплата выплачваецца. Усяго добрага!

**Валерый СЯДЗЕЛЬНІК, рабочы Мінскага завода шасцерняў:**

— Ёсць праца, і зарплата ёсць, калі разабрацца, нават цярпімая. Але ўмовы працы не вельмі добрыя: холадна, святла мала. Цэх нумар адзін, дзе я працую заточнікам, пабудавалі яшчэ пры савецкай уладзе, ён вельмі вялікі, ацяпліць яго, вядома, праблематычна. Але і працаваць у ім пры мінусавай тэмпературы вельмі цяжка. Ходзім па цэху, як валацугі якія, па тры курткі на плячах. Тэмпература павінна быць плюс 16, а часта — мінусавая...

**Валерый РОКАШ, намеснік начальніка аддзела сацыяльнага развіцця і гаспадарчага абслугоўвання Мінскага аўтамабільнага завода:**

— Нармальна працуецца. Са студзеня выходзім на працу пяць дзён на тыдзень. Ці задаволены заробкам? У мінус заробак дакладна не ідзе, але ён застыў. У нас у снежні былі пераносы, выхадныя, таму гэта адбілася на заробку. Канешне, недзе, магчыма, ёсць і большыя заробкі. Тыя, хто знаходзіць лепшую працу ці лепшыя ўмовы, звальняюцца. На мой погляд, вялікіх праяў незадаволенасці на заводзе няма.

**Ігар ТОМАШ, інжынер рамонтнага цэха Мінскага маторнага завода:**

— Цяпер не вельмі добры перыяд у машынабудаванні — застой, спад. Са збытам праблематычна. Зрэшты, такі перыяд у нашай галіне паўтараецца штогод, пакуль не пачнецца пасяўная. У студзені некаторыя цэхі два разы адпраўлялі на дзве трэці працоўнага дня, і на заробках гэта, вядома, адбівалася. Нам цяжка, таму што мы, Маторны завод, залежым ад МТЗ, БелАЗа, "Амкадора"... Толькі трактарны завінаваціўся нам 200 мільярдаў рублёў... А бытавыя ўмовы на прадпрыемстве нармальныя, грэх скардзіцца. І калі ўвогуле казаць, завод працуе, рабочая дысцыпліна ў калектыве высокая.

**Алег КАРПОВІЧ, выконваючы абавязкі намесніка генеральнага дырэктара па вытворчасці ААТ "Гродна Азот":**

— Мяне асабіста ўсё задавальняе. Працуем згодна з заканадаўствам: пяць дзён на тыдзень. Але тыя, хто вельмі хоча, могуць і ў суботу выйсці на працу — у нас гэта не забаронена *(смяецца)*. Пра заробкі я вам нічога не магу сказаць: гэта камерцыйная тайна. Але рабочыя да мяне са скаргамі на заробкі не звяртаюцца. І ўвогуле, самае галоўнае — гэта ж не заробак, галоўнае — атрымліваць задавальненне ад сваёй працы...

**Марына КОКТЫШ,**
**Алена МАЛОЧКА.**

### АД РЭДАКЦЫІ

**Як бачым, сітуацыя на буйнейшых прамысловых прадпрыемствах краіны зусім не катастрафічная. Ёсць праблемы, але ў каго іх няма. Важна пазбегнуць абвалу, не дапусціць спынення канвеераў, далейшага затаварвання складоў. І — перабояў з выплатай заробкаў.**

**"Народная Воля" і надалей будзе цікавіцца жыццём працоўных калектываў. Пішыце, шаноўныя чытачы, нам аб тым, якая сітуацыя на вашым прадпрыемстве, як заахвочваецца ваша праца, якія ўмовы створаны на рабочых месцах. Чакаем вашых лістоў...**

ЗАКУЛІССЕ

## Прыкормленыя

*Новым дакументам, падпісаным 30 студзеня, Аляксандр Лукашэнка фактычна працягнуў дзеянне ўказа №559 ад 17 снежня 2012 года яшчэ на два гады. Гэта значыць, што Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі і ў гэтым годзе, і ў наступным будзе атрымліваць фінансаванне з дзяржаўнага бюджэту краіны.*

Дарэчы, памеры фінансавання па-ранейшаму застаюцца пад грыфам *"Для службовага карыстання"*, і аб тым, колькі на самай справе нам каштуе ўтрыманне *"праўладных ястрабаў"*, грамадскасці застаецца толькі здагадвацца. Справа ў тым, што фінансаванне з дзяржаўнага бюджэту рэспубліканскай казны — гэта толькі частка расходаў на ўтрыманне маладых кар'ерыстаў, якія за гэтыя грошы падтрымліваюць уладу ва ўсіх яе пачынаннях. Абавязак утрымліваць тэрытарыяльныя камітэты БРСМ і забяспечваць іх бягучыя выдаткі ўскладзены на мясцовыя бюджэты. Іншымі словамі, самім "лукамольцам" не трэба шукаць грошы ні на арэнду, ні на паперу, ні на аплату тэлефонных званкоў, ні на...

У дзяржаўным бюджэце на 2014 год на фінансаванне БРСМ выдзелена больша за 43 мільярды рублёў. Калі ўспомніць, што бюджэт разлічваўся, зыходзячы з прагнозу Міністэрства фінансаў, што сярэдні курс долара ў гэтым годзе складзе 9500 рублёў, то лёгка падлічыць: 4,5 мільёна долараў пойдуць на тое, каб маладыя актывісты заўсёды былі пад рукой і гатовы прадэманстраваць дзеючай уладзе сваю падтрымку. І гэта акрамя таго, што, яшчэ раз падкрэсліваем, мясцовыя бюджэты забяспечаць усім неабходным. Прама скажам, нямала. Асабліва ва ўмовах, калі грошай не хапае на ўтрыманне школ, бальніц, бібліятэк... Пенсіянеры ледзь выжываюць, затое нэакамсамольцы маюць ад дзяржавы тлусты пірог.

### Даслоўна

*Нядаўна Аляксандр Лукашэнка прызнаўся, што ставіць "перад БРСМ ідэалагічныя і палітычныя задачы". "Але гэтыя задачы звязаны не з ператварэннем яго членаў у чыіх-небудзь "ястрабаў" ці "сокалаў". А перш за ўсё — з фарміраваннем з маладых людзей патрыётаў нашай краіны. І вы не зможаце папракнуць мяне ў тым, што я казаў: бярыце дубіны, бярыце камень і ідзіце ў кагосьці кідайце. Я ўсё жыццё, будучы прэзідэнтам, стараўся зберагчы моладзь ад гэтага. Таму нам патрэбна моладзь, арыентаваная на любоў да сваёй краіны".*

***

Відавочна, што беларускі кіраўнік старанна спрабуе падмяніць паняцці. Бо любоў да краіны, патрыятызм і падтрымка дзеючай улады — гэта зусім не адно і тое. У рэальнасці дзяржаўную падмогу маюць толькі тыя, хто ніколі і ні ў чым не апаніруе тым жа ўладам, хто толькі ўмее ім падпяваць.

Дарэчы, на пачатку гэтага года некаторыя грамадскія арганізацыі не толькі не атрымалі ад улады фінансавай падтрымкі, а, наадварот, даведаліся, што льготы па аплаце арэнды памяшканняў для іх скасаваны. (Пералік ільготнікаў складаецца па ўзгадненні з прэзідэнтам.)

У спіс грамадскіх аб'яднанняў, якім аказваецца падтрымка, не ўвайшлі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ), ГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", ГА "Беларускі фонд SOS — Дзіцячая вёска", БГА "Рэспубліка без наркотыкаў", РГА "Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА", РГА "Ліга добраахвотнай працы моладзі", саюзы нацыянальных меншасцяў (у тым ліку ГА "Саюз палякаў на Беларусі"). У той жа час у шчаслівы спіс увайшлі яўрэйскія дабрачынныя аб'яднанні і суполкі, Камуністычная партыя Беларусі, практычна ўсе спартыўныя федэрацыі, уключаючы нават... Федэрацыю гольфа — спорту мільянераў.

Вось такая падтрымка патрыятызму!

**Алег СНОЎ.**

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

## У што ўвязаліся?

НАТО асуджае размяшчэнне ў Беларусі расійскіх знішчальнікаў Су-27. Генеральны сакратар НАТО **Андэрс Фог Расмусен** заявіў, што яго турбуюць размовы пра разгортванне наступальных узбраенняў, і заклікаў Маскву адмовіцца ад рыторыкі мінулых гадоў.

Як вядома, у 2015 годзе ў Лідзе, на Гродзеншчыне, размесціцца полк Су-30. Гэта шматмэтавыя самалёты, якія атакуюць наземныя аб'екты на адлегласці да трох тысяч кіламетраў. У гэтым радыусе ад Ліды знаходзяцца практычна ўсе еўрапейскія сталіцы. Першыя расійскія самалёты і брыгады іх тэхнічнага абслугоўвання прызямліліся ў Беларусі напрыканцы мінулага года.

Нагадаем, што, згодна з артыкулам 18 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, наша дзяржава ўзяла на сябе абавязацельства зрабіць дзяржаву нейтральнай. Гэта значыць — краіна не павінна належаць да якіх-небудзь ваенных блокаў. Такім чынам, не зразумела — для каго пісалася Канстытуцыя? І чаму маўчаць Палата прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі, Канстытуцыйны суд?

БЕЛАРУСЬ—ЕС

## Старт перамовам дадзены

***Напрыканцы мінулага тыдня адбыўся візіт намесніка міністра замежных спраў Алены Купчынай у Брусель. Прэс-служба беларускага МЗС паведаміла, што гэты візіт стаў афіцыйным пачаткам перамоў паміж Беларуссю і Еўрапейскай камісіяй па пагадненнях аб спрашчэнні візавых працэдур і аб рэадмісіі.***

У Брусэлі **Алена Купчына** сустракалася з еўрапейскім камісарам па пашырэнні і еўрапейскай палітыцы суседства **Штэфанам Фюле** і дырэктарам дэпартамента Расіі, Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў **Гунарам Вігандам.** Адносіны Беларусі з Еўрапейскім парламентам былі прадметам гутарак Купчынай з віцэ-прэзідэнтам ЕП **Яцакам Пратасевічам** і кіраўніком дэлегацыі ЕП па сувязях з Беларуссю **Філіпам Качмаракам**.

Як вядома, аб спрашчэнні візавых працэдур паведаміў на лістападаўскім саміце "Усходняга партнёрства" ў Вільнюсе кіраўнік МЗС **Уладзімір Макей.** Заходнія палітыкі і эксперты сцвярджаюць, што ў дадзеным пытанні ўсё залежыць ад жадання беларускага боку, еўрапейцы ўжо даўно гатовы зменшыць кошты шэнгенскіх віз для беларусаў, а ў будучым і ўвогуле іх адмяніць. Напрыклад, эксперт Польскага інстытута міжнародных спраў **Ганна Марыя Дынэр** яшчэ напрыканцы мінулага года ў размове з беларускімі журналістамі падкрэслівала, што спрашчэнне візавага рэжыму — гэта тэхнічнае рашэнне, і гэта прасцей, чым дагавор аб малым прыгранiччы. "Беларусь павінна будзе падпісаць пагадненне аб рэадмісіі з Еўрасаюзам, — патлумачыла Ганна Марыя Дынэр. — Думаю, што на гэта не спатрэбіцца шмат часу. Украіне, напрыклад, спатрэбілася больш за год, каб шэнгенскія візы для грамадзян краіны патаннелі да 35 еўра. Беларусь, мяркую, можа зрабіць гэта ў больш сціслы тэрмін".

Дарэчы, зараз не толькі для нашых суседзяў-украінцаў шэнгенская віза каштуе 35 еўра. Па такім кошце яе атрымліваюць грамадзяне Грузіі і Малдовы, з гэтага года павінны падключыцца грамадзяне Арменіі і Азербайджана. Для Малдовы, дарэчы, Еўрасаюз увогуле збіраецца ў бліжэйшы час візы адмяніць.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

### Амаль кожная трэцяя віза бясплатная

Паводле інфармацыі Еўракамісіі, 47% віз, якія амбасады еўрапейскіх краін выдаюць беларусам, — шматразовыя. А ў 2013 годзе 31,1% усіх віз, выдадзеных беларускім грамадзянам, былі бясплатнымі. Гэта амаль на 2% вышэй, чым у 2012 годзе.

Па словах кіраўніка візавага аддзела Генеральнага дырэктарата ўнутраных спраў Еўрапейскай камісіі **Яна дэ Чэстэра** дамовы, якія могуць быць падпісаны ў выніку распачатых перамоў паміж Беларуссю і Еўрасаюзам наконт спрашчэння візавага рэжыму, могуць утрымліваць змяншэнне кошту віз для ўсіх беларусаў і адмену платы за іх атрыманне для некаторых катэгорый грамадзян. Акрамя гэтага, працэдуры атрымання кароткатэрміновых віз будуць спрошчаны, час іх выдачы будзе зменшаны да 10 дзён, а крытэрыі, паводле якіх будуць выдавацца шматразовыя візы дзеяннем болей за год, будуць дакладна вызначаны.

У СОСЕДЕЙ

## Президент Литвы Даля Грибаускайте намерена баллотироваться на второй срок

*Об этом она объявила в обращении к жителям страны.*

*"Я без сомнений выбираю работу для вас и в качестве независимого кандидата снова буду участвовать в выборах президента Литвы"*, — сказала она. В своем обращении глава Литвы также упомянула об угрозе, которую представляют для страны некие *"олигархические группировки"*. Они, со слов президента, *"делят между собой Литву, отдаляя наши общие мечты о лучшей жизни"*.

*"По мере того как Литва встает на ноги, активизируются и разрушающие и расхищающие наше государство силы — как извне, так и внутри страны"*, — подчеркнула Грибаускайте (не уточнив, о чем именно идет речь).



Первый тур президентских выборов в Литве намечен на 11 мая 2014 года. Уже известно, что в них намерены участвовать социал-демократ **Зигмантас Бальчитис,** представитель Партии труда **Артурас Паулаускас,** лидер партии "Порядок и справедливость" **Роландас Паксас,** а также мэр Вильнюса **Артурас Зуокас** и бывший советник Грибаускайте член Сейма **Линас Бальсис.**

По данным опроса, который 16—26 января провела компания "Spinter tyrimai", у Грибаускайте больше всех шансов победить на президентских выборах. За нее готовы проголосовать 39,7 процента опрошенных. Ближайший конкурент политика — социал-демократ Зигмантас Бальчитис — набирает, согласно опросу, 8,6 процента голосов.

Грибаускайте ранее работала министром финансов и еврокомиссаром по бюджету. Она была избрана президентом в 2009 году, одержав победу в первом туре с результатом в 70 процентов голосов.

## Каму забараняецца байкатаваць выбары?

*У сувязі са зменамі ў выбарчым заканадаўстве хацелася б яшчэ раз удакладніць: каму канкрэтна забараняецца байкатаваць выбары, а каму можна?*

**Васіль БЫЧКОЎСКІ, Мінск.**

З гэтым пытаннем мы звярнуліся да сакратара Цэнтрвыбаркама Беларусі **Мікалая ЛАЗАВІКА**. Вось што той распавёў:

*"Выбары можна байкатаваць індывідуальна. І любы чалавек сам для сябе можа вызначыць, ісці яму на галасаванне альбо не. Але калі гэты ж самы чалавек будзе агітаваць іншых грамадзян не ісці на выбары, то гэта ўжо будзе парушэннем заканадаўства. Паўтаруся, забарона на такую агітацыю тычыцца не толькі кандыдатаў, іх давераных асоб, палітычных партый ці арганізацый, але і кожнага выбаршчыка. У выпадку ж супрацьзаконных дзеянняў будуць складацца адміністрацыйныя пратаколы, там даволі вялікія штрафы".*

Дарэчы, можна падаць заяўку на пікет за байкот, і калі гэтую акцыю дазволяць, то тады вашы дзеянні ўжо не будуць лічыцца супрацьзаконнымі. Праўда, наўрад ці хто дазволіць.

**Падрыхтаваў**
**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ОПЫТ СОСЕДЕЙ

*Сколько говорено-переговорено: у нас, в Беларуси, нет независимого телевидения, все каналы под пятой властей, которые заинтересованы, прямо скажем, в заангажированных передачах, в трактовках, далеких от объективности. А вот в соседней Украине смогли прорвать информационную блокаду. Как?*

# «Громадське ТВ»: вызов телемонстрам с многомиллионными бюджетами

Они начали вещание в годовщину "оранжевой революции", и буквально за три дня "Громадське ТВ" стало самым популярным в Украине каналом. В день их смотрит до 2 миллионов человек.

Группа профессиональных журналистов, которые ушли с разных телеканалов, собрались вместе и задумали сделать общественное телевидение. Сейчас, во время Майдана, они работают на волонтерских началах. Это их гражданская позиция. У них обычная дешевая студия, не отгороженная от ньюс-рума. Стрим с Майдана и других мест делают с сотовых телефонов. "Громадське ТВ" дает полную картину дня. Украинцы за эти революционные дни перечислили на поддержание работы канала больше 200.000 долларов. В проекте работают более 100 волонтеров, которые помогают проверять информацию, организовывать весь сложный телевизионный процесс в непростое для Украины время. Ключевые слова миссии — ответственность и достоинство. Вот такой вызов телевизионным монстрам с многомиллионными бюджетами.



## Как все начиналось...

**Рассказывает журналист Сергей Андрушко:**

*— Так случилось, что многие журналисты по разным причинам остались не у дел на главных информационных каналах Украины. И у нас возникла идея, что нужно создать что-то общественное. Идея общественного телевидения нам всем импонировала. Потому что у нас есть государственный канал, который финансируется из наших карманов, но занимается он пропагандой правительства. Начали мы об этом думать в апреле. А в мае так случилось, что на одном оппозиционном канале, который показывал все стороны жизни и на который могли попасть в том числе оппозиционеры, произошел рейдерский захват. И оттуда массово ушли журналисты. Это стало для нас последней каплей: нечего отступать, нужно создавать что-то свое!*

*В июне мы презентовали проект "Громадське ТВ" как идею. Стали работать над миссией, искать средства. Мы — это команда ведущих журналистов-расследователей, репортеров. Сначала нас было 8 человек, потом 16. Все уже состоявшиеся в профессии журналисты. Но мы никогда не работали вместе. Притирались, пытаясь вместе понять, какой продукт должен выходить, почему он должен называться именно общественным телевидением. На начальном этапе мы не доверяли друг другу, потому что у каждого был свой печальный опыт работы в СМИ. Поэтому все важные решения мы принимаем коллегиально, и у нас все очень публично. В том числе отчеты о выделенных и собранных деньгах и о том, как они тратятся. Мы придумали много авторских программ, например, расследований. Стартовать планировали в день "оранжевой революции" 22 ноября. Но тут все и началось, все пошло не по плану...*

Сегодня ребята работают в обычной дешевой студии, с не самыми дорогими камерами, свет взят в аренду. Студии, как это принято на телевидении, нет, она совмещена с ньюс-румом, в котором работают журналисты, операторы, монтажеры. Кому не хватило места, сидят с компьютерами у стенки или в коридоре. Ведущие и гости в эфир выходят без грима, и вообще атмосфера в студии самая неформальная. Вот прямо на моих глазах ведущий в живом эфире оборачивается в ньюс-рум и просит кофе. И никакого пафосного и отдаленного "Добрый вечер! Мы начинаем нашу телепрограмму...". Вещают с 10 утра до 10 вечера. Практически круглые сутки идет стрим-вещание с Майдана и других горячих точек. С помощью камер зрители в режиме реального времени могут следить за тем, что происходит.

Этот телеканал — феномен. Во времена "оранжевой революции" не был еще так развит интернет, не было таких технологий и не было профессиональных журналистов, которые бы этими технологиями владели и могли бы их развивать.

Ребята ведут стрим с Майдана через сотовые телефоны, общаясь с людьми, тут же передавая это в эфир. Принимают эсэмэски с информацией, тут же проверяя ее с айпадов. Wi-Fi, купленного за 100 долларов, достаточно, чтобы работать онлайн, делать прямые включения из разных точек Киева и Украины.

*В январе пластиковые каски были заменены на боевые, а оранжевые жилеты «Пресса» на бронежилеты.*

## 200+ волонтеров

**Людмила Янкина, менеджер-волонтер:**

*— Я провела всю ночь на Майдане, а в 8 утра мне позвонили, что "Громадському ТВ" нужна помощь, потому что такой поток запросов, такой поток зрителей, такой поток работы необходимо выполнять, а они просто не справляются. Что мы сделали? Мы создали систему из 100+ волонтеров — это высококвалифицированные специалисты с высшим образованием, с образованием MBA, генеральные директора и т.д.*

*Мы разделились по сменам, мы самоорганизовались для того, чтобы обеспечить "Громадському" машину функциональности. Помогаем им создавать сетку программ, работаем над гостевой сеткой, кого в эфир подать... Найти каски журналистам, найти и привезти еду, отвезти гостя — все это делают волонтеры.*

*У нас есть целая команда волонтеров, которая занимается проверкой, верификацией информации, сейчас мы сгруппировали все хэштэги, которые мы проверяем, все линки, которые мы мониторим, плюс, если приходит какая-то информация, мы всегда звоним в пресс-службу. Мы проверяем всю информацию без исключения. И, как показала практика, это оказалось очень правильно. Когда везде прошла информация, что на Киев едут танки, наши волонтеры поехали в ключевые узлы, на железную дорогу, поговорили со специалистами и опровергли эту информацию.*

*Благодаря нашим чудесным волонтерам у нас практически нет ограничений. Это очень большой кредит доверия. И мы не можем его не оправдать. Это очень важно для нас. Когда телеканал принял решение называться "Громадське ТВ", то уже здесь началась ответственность. Вот они там сидят, волонтеры, потому что они нам доверяют. Они понимают и разделяют наши цели. Именно поэтому они хотят сделать свой вклад. Только сейчас уже у нас не 100+, а 200+ волонтеров.*

**Михаил, директор одного из международных диджитал агентств**

Миша пришел на "Громадське ТВ" сам и сделал конкретное предложение телеканалу. Он очень быстро изложил все, что он может сделать, и сказал, что ему необходимо иметь от телеканала. Через несколько дней были готовы необходимые веб-страницы, ресурсы, через которые можно получать помощь, Миша и его кампания помогают расширять сайт, монетизировать трафик, что необходимо для нужд расширения и развития телеканала.

**— Миша, а почему вы, будучи директором компании, занимаетесь этим?**

*— Потому что я это умею делать. А кто это должен делать? Это должны делать профессионалы.*

*Я это делаю каждый день за деньги, почему бы мне не потратить два часа и не сделать это один раз не за деньги?*

**— Миша, а вы не боитесь, что власть может иметь к вам претензии, ну, например, в случае плохого сценария?**

*— Если вы мой портрет не опубликуете... Да нет, я же не делаю ничего противозаконного.*

**Олена, сотрудник рекламного агентства**

Олена тоже сама предложила свою помощь, она делает в том числе канцелярскую работу, дает возможность журналистам думать о более важных вещах. Все это Олена делает после своей основной работы и бесплатно.

*— Я, Олена Лисицкая, занимаюсь развитием нового бизнеса для большого рекламного холдинга, а сюда я пришла, потому что есть большое желание помочь всем людям в Украине. Так как сейчас важно, кроме материальной помощи и еды, дать людям достоверную информацию. Я работаю как менеджер, помогаю организовывать процесс. Я даже была водителем.*

**— Можно я вас сфотографирую?**

*— Да, конечно!*

**Миша, руководитель фирмы:**

*— Я тоже волонтер, я здесь занимаюсь сопровождением гостей эфира, делаю это 3 раза в день. Мне интересно.*

**— А как вообще вам пришло в голову, что этим нужно заниматься?**

*— На самом деле мне пришло в голову, что нужно чем-то общественно важным заниматься. И на самом деле у многих людей среднего возраста есть потребность чем-то таким заниматься. Просто в обычное время ее не так просто реализовать. Потому что многие вещи, которые сейчас кажутся важными и осмысленными, в спокойное время выглядят глупо, хотя сейчас понимаешь, что это снобизм, что нужно отбрасывать ненужное в сторону и что-то полезное делать.*

*Собственно говоря, мне было все равно, чем заниматься, лишь бы помогать, нужно — буду кофе готовить.*

**— То есть вы, руководитель компании, сейчас будете готовить кофе?**

*— Да!*

## Трудный денежный вопрос

Раньше никто не верил, что люди в Украине могут поддержать деньгами какой-то проект. На сегодняшний день украинцы собрали на проект "Громадське ТВ" больше средств, чем дали различные фонды.

**Роман Скрыпин, главный редактор "Громадське ТВ":**

*— Нам всегда рассказывали сказки про западное общество, которое поддерживает разные общественно значимые проекты. А мы слушали и говорили: "У нас такое невозможно!"*

*Сначала мы на сайте повесили кнопочку — "Помочь проекту". Мы даже еще не начали выходить в эфир, но нам уже перечислили 65 тысяч гривен за 2 месяца. Мы боялись дышать на эти деньги. Это же общество! Это же общественные деньги — большая ответственность. Мы их не тратили. Мы их стали тратить, только когда встал вопрос о помещении, о мебели. Мы купили мебель за эти деньги, мы арендовали помещение.*

*Скоро на сайте мы вывесим публичный отчет об использовании этих денег, мы готовим его сейчас. И зарплата журналистов будет видна. У нас открытая система — сколько у нас денег, никто не скрывает. Мы в эфире озвучиваем, сколько дали украинские граждане на наше существование. Я могу в эфир сказать, сколько они дали на наше существование.*

**— А сколько они дали, вы можете озвучить цифру?**

*— На данный момент — минутку, мне нужно сходить за телефоном — из банка приходят эсэмэски, как только пополняется счет... Сейчас примерно около 1 миллиона 750 тысяч гривен, это более 200 тысяч долларов. Это с того момента, как мы начали вещать, с 22 ноября. На сегодня это уже гораздо больше, чем дали западные фонды.*

**— А какой средний размер перечислений?**

*— Мы подсчитали: в среднем 200 гривен на платеж. Хотя есть переводы по 10 гривен, есть по 20, 50, 100 тысяч. Кто сколько может.*

**— А в Украине, чтобы перечислить деньги, люди должны оставить имя, фамилию, паспортные данные?**

*— Паспортные данные — нет, а имя и фамилия вносятся в платеж, это же банковский платеж. У нас там перечисляют, бывает... Мне звонит человек из биллинговой платежной системы и говорит: "Тут, Рома, перечисляет какой-то Микки Маус, что делать?" Говорю: "Возвращать!" Микки Маусу возвращаем.*

*Мы, когда готовились к запуску, бизнес-план написали... Но теперь его нужно переписывать.*

*Хорошо, что бизнес-план у нас есть, но все пошло не по тому сценарию, который мы закладывали. Мы закладывали период долгой раскачки, а из-за событий получился внезапный быстрый старт.*

**— Рома, а вы главный редактор?**

*— Не только, еще глава общественной организации.*

27 декабря фирмы ГОГОЛЬFEST и "Дукат" устроили аукцион в поддержку "Громадського ТВ". Свои работы для продажи бесплатно предоставили украинские художники. За вечер продали 24 лота на сумму 199.900 гривен. После аукциона продались еще две работы на сумму 7500. Общая сумма составляет 207.400 гривен (около 25 тысяч долларов).

А в январе "Громадське ТВ" попробовало еще один инструмент для сбора общественных средств — общеукраинский сайт "Спильнокошт" — в переводе это что-то вроде "Общие деньги". Ребята поставили перед собой амбициозную задачу: собрать за 100 дней миллион гривен (около 120.000 долларов). Причем на сайте действует правило: если заявленная сумма не собирается, средства возвращаются людям. На момент, когда до окончания сбора средств осталось 70 дней, было уже перечислено более 650.000 гривен. Деньги эти целевые, они должны пойти на техническое обеспечение стабильной работы канала в 2014 году.

**Юлия СЛУЦКАЯ.**

*Киев.*

ВЫБАРЫ

# Адчайныя ці беспрынцыповыя?

## *Хто і навошта ідзе ў дэпутаты*

***Сотні прадстаўнікоў дэмакратычных партый і рухаў удзельнічаюць у выбарчай кампаніі. Некаторыя з іх на сваім вопыце з асаблівасцямі беларускіх выбараў яшчэ не сутыкаліся, але ёсць і тыя, хто спрабуе стаць дэпутатам і трэці, і чацвёрты раз. І, што самае дзіўнае, гэтых людзей аб'ядноўвае перакананне, што сапраўдных выбараў у нашай краіне няма. Чаму ж яны ўсё-такі бяруць удзел у тым, чаго няма?***

**Юрась Меляшкевіч** *балатуецца па 28-й Слабадской акрузе Мінска. Працуе патэнцыяльны кандыдат дырэктарам ТАА "Куфэрак падарожжаў". Балатуецца ўжо трэці раз. Жыхарам, якія выступаюць за захаванне Севастопальскага парку, Юрась Меляшкевіч запомніўся яшчэ ў 2007 годзе, бо браў актыўны ўдзел у кампаніі абароны парку.*

На ранейшых выбарах, па афіцыйных звестках, Меляшкевіч атрымліваў ад 15% да 22% галасоў выбаршчыкаў гэтай акругі. Але сам ён называе іншыя лічбы:

— Мяркую, што ў горшым выпадку на мінулых выбарах у нас павінен быў адбыцца другі тур, а ў лепшым — я перамагаў. Толькі вось паведамілі, што датэрмінова прагаласавала недзе 30% выбаршчыкаў, хаця даўно ўсе ў курсе, што рэальна стаіць за такімі заявамі. Ніякіх сігналаў пра тое, што нешта зменіцца на гэты раз, што будзе рэальны падлік галасоў, няма. І ілюзій няма: выбарчае заканадаўства не зменена — значыць, машына будзе працаваць так, як раней. Але я ўсё роўна іду на выбары, бо я ў гэтым горадзе жыву і мне не ўсё роўна, што тут адбываецца. Збор подпісаў за маё вылучэнне ўжо вядзецца, людзі ахвотна падтрымліваюць.

**Леанід Дубаносаў** *працуе на "Граніце" ў Мікашэвічах. Падчас супрацьстаяння рабочых прадпрыемства з яго кіраўніцтвам ён перайшоў з афіцыйнага прафсаюза ў незалежны. Леанід Дубаносаў упершыню балатуецца ў дэпутаты:*

— У выніку пратэстаў на "Граніце" мы ўсё ж дабіліся павышэння заробкаў у чатыры разы. Але трэба вырашаць праблемы не толькі на прадпрыемстве, але і ў самім горадзе. Ён практычна не аднаўляўся з савецкіх часоў. Калі б вы толькі бачылі, якія трубы ў нашых дамах! Ёсць такое, што дзіркі папросту забіваюць драўляным колам, нават ніякай зваркі не робіцца. Вада стаіць у падвалах. Дамам пад 40 гадоў, і яны ніколі не рамантаваліся. А дзіцячыя пляцоўкі!!! Адзінае, што зрабілі, — дык папросту лаўкі каля бальніцы паставілі. А то і іх жа не было: хворыя выходзілі паветрам падыхаць і не ведалі, дзе сесці. Шчыра кажучы, я не спадзяюся, што ўлады дапусцяць, каб я стаў дэпутатам. Але мяне ўразіла тое, што людзі так мяне падтрымліваюць, што яны хочуць, каб з'явіўся чалавек, які цікавіўся б іх праблемамі і дзейнічаў у іх інтарэсах. Цяпер жа ніхто не ведае нават прозвішча дэпутата, якога нібыта людзі выбіралі.

**Леанід Мажальскі** *стаў вядомы падчас пратэстаў жыхароў сталічнага мікрараёна "Уручча-2" супраць ушчыльнення забудовы. Летась, у жніўні, за чарговы такі пратэст Мажальскі быў пакараны 5 суткамі арышту і штрафам у 2 мільёны рублёў. Леанід балатаваўся ў Палату прадстаўнікоў, але не прайшоў з-за таго, што былі знойдзены нейкія недарэчнасці ў паперах і быццам ён "ўтойваў" ад выбаршчыкаў даход у... 15 тысяч беларускіх рублёў. Тым не менш аўтарытэт "актывіста з народа" гэта не падарвала, хутчэй наадварот.*

— У мяне былі акцыі "Белрамэнергабуда", якія набыў на чэкі "Маёмасць". Гэтае прадпрыемства змяніла юрыдычны адрас, а я гэтага не ведаў. Дык мяне абвінавацілі ў тым, што я няправільна адрас указаў і памер дывідэндаў. Страшэнна вялікія грошы — за 5 гадоў накапала 15.000 рублёў. Смешна, канешне. Але ўсе ж усё разумеюць. Цяпер галоўнае, што мы хочам зрабіць, гэта правесці ў нашым мікрараёне рэферэндум "Ушчыльненне ці пашырэнне?". Ініцыятыўная група мяне падтрымала. Да таго ж ёсць жаданне рабіць перамены на карысць раёна. Колькі разоў мы хацелі далучыць да нашых праблем цяперашняга дэпутата! Ён працуе дырэктарам басейна каля рынка "Уручча", але яго нашы праблемы, здаецца, абсалютна не цікавяць. Вось і не дзіўна, што цяпер людзі мяне вырашылі вылучыць у дэпутаты.

**Любоў ЛУНЁВА.**

### АД РЭДАКЦЫІ

*Што і казаць, крыху дзіўныя адказы. Яны, бачыце, упэўнены, што не стануць дэпутатамі, але ўсё роўна балатуюцца... Хоць бы слова сказалі пра тое, што яны асабіста зробяць, каб на іх участках улады ні ў якім выпадку не змаглі сфальсіфікаваць вынікі выбараў, каб людзі зразумелі, што менавіта за іх трэба галасаваць, а не за прадстаўнікоў наменклатуры. Як быццам гэта нікога не хвалюе. Тады, скажыце, навошта гуляць у дэмакратыю, у волевыяўленне народа? Выбары — гэта ж лёсавызначальная кампанія. І нельга разлічваць на станоўчыя перамены ў краіне, калі ўлады разам з беспрынцыповымі грамадзянамі будуць падмяняць адкрытыя, свабодныя, чэсныя выбары нейкім ідэалагічным сурагатам.*

## *Николай АВТУХОВИЧ:* *«Это все пустое занятие»*

*Политзаключенный* ***Николай Автухович*** *в своем письме волковысскому общественному активисту* ***Александру Сезеню*** *высказал свое мнение о выборах в местные Советы и их результатах.*





*"Это все пустое занятие. До основной цели точно не дадут дотянуться"*, — пишет политзаключенный.

Он вспоминает свое участие в выборах. *"Я отыграл эту роль честно и до конца. Дважды срывал планы по своему снятию с дистанции. Много знающих людей вовремя подсказывали о провокациях и деталях их исполнения. Так мне удалось продержаться до регистрации, а там они уже сосредоточились на другом. Про те выборы можно написать большую главу в книге. Ведь у нас осталось очень много материала"*, — рассказывает в письме Николай Автухович. "Чего только не насмотрелись", — отмечает политзаключенный и добавляет, что он не сторонник наступать на грабли по 10 раз.

Николай Автухович — один из заключенных, которые находятся сейчас за решеткой по политическим причинам. В 2010 году его приговорили к 5 годам и 2 месяцам заключения в условиях строгого режима без конфискации имущества.

ПАЛІТКУХНЯ

## Не дамовіліся

*На адзінай вакантнай акрузе па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў дэмакраты зноў не здолелі дамовіцца. Папярэдне абяцалася, што кандыдат ад апазіцыі будзе адзін, а выбары, адпаведна, — узорна-паказальнымі і па колькасці назіральнікаў на ўчастках, і па ўменні прадстаўнікоў розных палітычных сіл працаваць разам, адной камандай. Аднак словы зноў аказаліся далёкімі ад рэальнай справы.*

У сакавіку гэтага года адначасова з выбарамі дэпутатаў мясцовых Саветаў у Гомельскай-Нававабеліцкай выбарчай акрузе адбудуцца выбары дэпутата Палаты прадстаўнікоў. На мінулых выбарах акруга засталася "вакантнай", паколькі першапачатковы "праўладны кандыдат" (на той час — памочнік прэзідэнта па Гомельскай вобласці Ігар Пракапенка) нечакана трапіў у няміласць і быў адхілены ад займаемай пасады. Неафіцыйна вядома, што звязана гэта было з крымінальнай справай па махінацыях з кватэрамі, якая закранула вышэйшае кіраўніцтва Гомеля. Адпаведна, кандыдата ўлады на тых выбарах не аказалася, і таму выбіраць дэпутата ў гэтым раёне Гомеля будуць толькі цяпер.

Восем палітычных сіл з апазіцыі вырашылі падтрымаць кандыдатуру мясцовай актывісткі Галіны Краўчанка, прадстаўніцы Руху "За свабоду". Але знайшліся і тыя, хто павёў сваю гульню: Аб'яднаная грамадзянская партыя вылучыла кандыдатам па гэтай акрузе Уладзіміра Няпомняшчых, партыя левых "Справядлівы свет" — Віктара Хоміча. Такім чынам, апазіцыянеры зноў будуць канкурыраваць паміж сабой. А гэта значыць, што высноў з былых параз, аналізу прычын і працы над памылкамі так і не зроблена.

**Алена НОВІКАВА.**

ШОУ

## У краіне з'явіцца містар Беларусь

Тэлеканал АНТ абвясціў аб пачатку правядзення адбораў удзельнікаў і ўдзельніц адразу некалькіх конкурсаў прыгажосці. Як паведамілі ў прэс-службе тэлеканала, сёлета акрамя традыцыйнага конкурсу "Міс Беларусь" будуць таксама праводзіцца "Містар Беларусь" і "Місіс Беларусь".

Для ўдзелу ў конкурсе "Містар Беларусь" арганізатары запрашаюць "прывабных, харызматычных і ўпэўненых у сабе мужчын" ад 18 да 30 гадоў ростам не менш як 180 см, якія маюць беларускае грамадзянства.

Для ўдзелу ў конкурсе "Місіс Беларусь" запрашаюцца "актыўныя, адукаваныя, з яркай знешнасцю жанчыны, узростам не менш за 18 гадоў, якія маюць сям'ю і дзяцей, ростам не менш як 175 см, грамадзянкі Рэспублікі Беларусь.

РЕЗОНАНС

# Освобождение от... совести

Здравствуйте, уважаемая редакция газеты "Народная Воля"!

Поскольку я пишу вам в этом году первый раз, то прежде всего хочу присоединиться к тем читателям, кто от всей души поздравил вас с Новым годом, и пожелать вам всем крепкого здоровья, терпения, мужества, творческих успехов, личного счастья и выразить глубокую благодарность за ваш труд, за то, что постоянно поставляете нам информацию для размышления, подпитывая нас чем-то новым, помогаете нам утвердиться в правильности понимания того, что происходит в окружающем мире!

Вот и сейчас читаю записки В.Жигулова "Оборотни" в "Народной Воле" за 21 января. Опять Витебщина! Опять беспредел! Пять лет назад светлой памяти С.Буткевич опубликовал большой материал "Наказание без вины". Можно сказать, разгромный материал. Не было предела гневу и возмущению по поводу того, что творили оборотни в милицейских погонах. Какую же надо было иметь наглость в сочетании с верой в свою безнаказанность, в поддержку "верхов", чтобы творить такое вопиющее беззаконие!

Казалось бы, после такого сверхразоблачительного доказательного материала все силы МВД должны быть обращены на наведение порядка в своих рядах. Ан нет! Как говорится: а воз и ныне там.

Витебщина, к великому сожалению, в очередной раз показала, как можно невиновного человека довести до скальпеля, до тюрьмы, а то и до "высшей меры социальной защиты" (на моей памяти и такое там было).

Скандальные разоблачения преступников в тоге блюстителей порядка на Витебщине, Гомельщине, Гродненщине и в других регионах свидетельствуют о глубоко укоренившейся коррупции, беспределе и беззаконии под крышей МВД страны. И в этом нет случайности, ибо первый посыл этой власти в период ее становления был: "Я не посмотрю на закон". Так до сих пор никто на него и не смотрит. Те, кто, надев погоны, вершит неправедный суд, разрушает веру в справедливость власти даже у тех, кто ее еще недавно поддерживал.

Уважаемый Владимир Жигулов!

Ну не могу я с вами согласиться, что это случайные люди. Вспомните инструктаж руководителей силовых ведомств: "Забыть такие понятия, как "прилично-неприлично", как на нас посмотрят, как нас оценят, плохо про нас напишут или хорошо..." (если не ошибаюсь, год 2011-й).

Так и слышатся слова, сказанные печально известным фюрером еще в тридцатых годах минувшего столетия: "Солдаты! Я освобождаю вас от такой химеры, как совесть". Посудите сами: два человека хватают на улице невиновного, заламывают ему руки и везут в отдел, один составляет протокол, двое лжесвидетельствуют, один лжесудит. Уже шесть на одного. А сколько там, наверху, тех, кто дает команду? Прикиньте, сколько людей в погонах, мягко говоря, не в ладах с совестью? Случайные — скорее всего те, кто, как вы пишете, "не жалея живота своего, служит верой и правдой своему Народу и своей Отчизне".

В свое время в книге русского писателя-детективщика Виктора Беркутова есть такая зарисовка: *"И бандиты, и менты по сути своей — потенциальные враги тех, кто не входит в их группировки. Бандит (правда, только беспредельщик) может наехать на любого и где угодно... Правда, в случае неоправданного наезда ему всегда придется держать ответ перед старшим за беспредел, а законы бандитской жизни хоть и беспощадны, но справедливы: можно ведь и "по ушам" получить.*

*А мент может больше, куда больше: можно остановить на трассе любую машину, заставить всех выйти, приказать лечь на асфальт, избить дубинками, сапогами, разбить стекло... после чего составить протокол о том, что задержанные, как один, были в страшно нетрезвом состоянии, плевались, брыкались и ругались на сотрудников органов внутренних дел, срывали с них погоны, оказывали сопротивление и в момент задержания все, как один, поскользнулись и упали на асфальт, получив увечья. И перед законом не ответишь, потому что протокол задержания — это уже документ, а остальные менты из чувства корпоративной солидарности подтвердят, что все оно так и было".*

Будто с наших доблестных "стражей порядка" писано. Готовая "инструкция" для "случайных погон".

Эти язвы на теле общества будут до тех пор, пока в государстве законы не станут основой жизни. К сожалению, по всему видно, это будет не скоро.

**Г.С.БУРВАН, пенсионер.**

*г.Пинск.*

**P.S.** Уважаемая редакция! Не думаю, что вы эти заметки опубликуете. Но это боль души, боль за державу, имидж которой портят не те, кто об этом говорит, а те, кто это делает...

ФОТАФАКТ



На Кастрычніцкай плошчы Мінска працуе цэнтральны каток сталіцы. Пракат канькоў на гадзіну каштуе тут 36 тысяч рублёў для дарослага і 26 тысяч — для дзіцяці.

Усяго ў Мінску гэтай зімой працуе 80 каткоў для масавага катання, 71 з іх — на тэрыторыях навучальных устаноў.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *Не знае продак, што ўсё на продаж*

**Жыхар Лунінецкага раёна даў у інтэрнэце аб'яву, у якой прапануе бацькоўскую хату ў абмен на наварочаны тэлефон.**

*Свой радавод надумаў хлопча*
*Адрэзаць, быццам хлеба скібу:*
*За тэлефон дыхтоўны хоча*
*Аддаць бацькоўскую сядзібу.*
*У гэтай нехлямяжай хаце*
*Спрадвеку галасы гучалі:*
*Спявала калыханку маці,*
*І кашляў дзед яго начамі.*
*У гэтым садзе-агародзе*
*Ён каштаваў гуркі і слівы.*
*Было забаў дзіцячых годзе*
*І мар — высокіх і шчаслівых.*
*І гэта ўсё цяпер — на продаж,*
*Прычым па кошце тэлефона...*
*І не баіцца ён, што продак*
*З магілы будзе слаць праклёны.*

* * *

*У хлопца ёсць разлік грашовы,*
*Але не трэ даваца дзіву:*
*За "транш" чарговы*
*Мы гатовы*
*Аддаць і мову, і Радзіму...*

## *«Кукіш у кішэні»*

**Так называецца чарговая кніга Алеся Няўвеся, якая толькі што выйшла ў свет. Яна — своеасаблівая сатырычная справаздача аўтара за мінулы год.**

**Вось як сатырык тлумачыць назву зборніка:**

*Парою здзекуецца бос*
*Над кімсьці з нас са смакам,*
*І хочацца яму пад нос*
*Падсунуць "дулю з макам".*
*Ды страшна босу-гламаздзе*
*Скруціць кулак-"фігуру",*
*Бо помста лютая ўзбрыдзе*
*На розум самадуру.*
*Каб не нажыць сабе бяды,*
*Знаходзім суцяшэнне:*
*Адважваемся мы тады*
*На кукіш у кішэні.*
*А я не першы год ужо*
*(Здабыткаў многа ззаду!)*
*Сатыры трапнае ружжо*
*Нацэльваю на ўладу.*
*Ёй, безумоўна, неўспадоб*
*Маёй сатыры стрэлы.*
*Улада можа "даць у лоб"*
*Таму, хто дужа смелы.*
*І каб аднойчы галаву*
*Не раскалолі з трэскам,*
*Я дзе метафару ўжыву,*
*А дзе пульну гратэскам.*
*І на бязглуздыя зусім*
*Загады ці рашэнні*
*Я скручваю (і раю ўсім)*
*Свой "кукіш у кішэні".*
*Не спакушуся на "мільён",*
*Дабротамі не купіш,*
*Таму мой кожны фельетон —*
*Уладзе гэтай кукіш.*
*І хай яна мне "зробіць гуз"...*
*А ўся наогул кніга —*
*Агромністая, як гарбуз,*
*Уладзе дуля-фіга!*

Беларускія крамы па вядомай прычыне адмаўляюцца браць для распаўсюджвання кнігу Алеся Няўвеся, таму тыраж зборніка, можна сказаць, мізэрны, і яго можна купіць толькі ў мінскай кнігарні "Логвінаў" (пр. Незалежнасці, 37а). У электронным выглядзе кнігу "Кукіш у кішэні", гэтак жа як і папярэднія зборнікі, а таксама новыя фельетоны, можна бясплатна набыць на сайце www.alesnauwes.com.

З НАГОДЫ

## *Знайшлі сякеру пад лаўкай*

У "Народнай Волі" за 24 студзеня надрукавана заметка пра тое, што, па словах генеральнага дырэктара дзяржаўнага прадпрыемства "Мінсктранс" І.Якубоўскай, праезд у грамадскім транспарце павінен каштаваць 7 тысяч рублёў, метро акупляецца на 45 працэнтаў. Цікава: кошт праезду ўсё павышаюць і павышаюць, а транспарт усё на датацыях.

Давайце паглядзім на прыкладзе метро. Не так даўно на ўваходзе ў метро дзяжурылі адна супрацоўніца метрапалітэна ў кабіне і адзін міліцыянт. А што зараз? Да тых, пра каго сказана вышэй, на прамежкавых станцыях дабавіліся мінімум яшчэ па адным супрацоўніку метрапалітэна з металашукальнікам, а колькі міліцыянтаў, у тым ліку амапаўцаў і розных дзяжурных, знаходзіцца на канцавых станцыях, а ўсіх станцый больш за два дзясяткі! І ўсім ім патрэбна плаціць заробак.

Можа, хто запярэчыць, што гэтым павышаецца бяспека праезду пасажыраў. Але зачастую можна бачыць, як на ўваходзе на станцыю супрацоўнік метро і міліцыянт сяброўскай парачкай вядуць размовы і мала звяртаюць увагу на пасажыраў.

Лічу, што кіраўніцтву "Мінсктранса" патрэбна знаходзіць унутраныя рэзервы самаакупнасці, а не толькі залазіць у кішэні пасажыраў за кошт павышэння платы за праезд.

**Аляксандр Уладзіміравіч БУРКО, пасажыр метро.**

*Мінск.*

# Нас оставалось только 969. И то на начало прошлого года...

Через год с лишним грядет историческая дата в жизни человечества — 70-й День Победы над фашизмом. Но этот праздник для нас, детей войны, будет с горчинкой, со слезами на глазах, хотя глаз-то у многих из нас, увы, нет. Покалеченным, исстрадавшимся в страшное лихолетье тогдашним мальчишкам и девчонкам, опаленным беспощадным военным пламенем, пришлось бороться со своим недугом, жизненными неурядицами и в мирное время. А под старость обострились всяческие недуги — инфаркты, полная слепота, появилась необходимость в постоянном уходе. Виновником всему — война. Для новых поколений она уже где-то далеко-далеко, в книгах и кино, а для нас, прошедших через то пекло, как и для старших — фронтовиков, партизан, подпольщиков — неизгладимая печать на всей судьбе.

Факт широкоизвестный: в лихую годину в партизанских отрядах, связными сражались против фашистов и подростки. Их сейчас называют "дети войны", об их недетском мужестве написано много замечательных произведений. На их примере воспитывалась послевоенная молодежь, их имена занесены в историко-мемориальные книги "Память"...

И вот мы узнаем, что к 70-летию Победы будет выпущена памятная медаль, ее вручат всем ветеранам Великой Отечественной. Но "детей войны" в списках награжденных не будет, так как мы по своему статусу не относимся к ветеранам ВОВ. И это при том, что дети войны в других странах на территории бывшего СССР такой статус имеют. Например, в России — еще с 2004 года. На наши неоднократные обращения к белорусским чиновникам различного уровня, вплоть до Администрации президента, один ответ: это, мол, дело главы государства, он и только он все решает. А после всех витиеватостей идет до боли знакомая ссылка (как всегда, когда речь заходит о нуждах простых людей) на финансовые трудности в стране...

Но позвольте: разве о каких-то материальных добавках мы просим? Речь — о моральной поддержке уже ставших инвалидами, а когда-то сражавшихся плечом к плечу со взрослыми детей войны, о наделении и нас статусом "ветеран ВОВ". А дополнительных бюджетных средств для этой цели не требуется: определенные льготы — за это спасибо — пока при нас. Да и по всей Беларуси — еще год назад — нас оставалось всего-навсего 969 человек... Мы говорим лишь о том, что хотели бы быть в числе тех, у кого в дни великих праздников в честь бессмертной Победы засияет гордая медаль "Ветеран войны". Мы ее, поверьте, заслужили. Она согрела бы наши сердца, которые у большинства теперешних стариков уже с трудом бьются...

Но глухие не слышат и не понимают нас. Может быть, через газету "Народная Воля" нас услышат.

**От группы инвалидов с детства вследствие ранений и увечий, связанных с боевыми действиями в военный период —**

**Николай Григорьевич БОЛОБАЕВ,**
**Иван Иосифович ЖУКОВСКИЙ,**
**Петр Иванович ПРОСЕНЦОВ,**
**Виктор Семенович КУДЛАЧЕВ,**
**Леонид Иосифович КЛЫШЕВИЧ,**
**Александр Михайлович СИДОРЕНКО,**
**Петр Александрович НИКИТЮК,**
**жители Гродно.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Трапіць у цэнтр*

***У Беларусі загаварылі пра стварэнне партыі ўлады, і гучаць меркаванні, што яна павінна быць цэнтрысцкай. Шчыра кажучы, я не веру, што Аляксандр Лукашэнка здольны прытрымлівацца менавіта такой лініі, але ўсё ж патлумачце: якія партыі лічацца цэнтрысцкімі?***

**Іван Ляшкоў, г.Мінск.**

Цэнтрызм — гэта ідэйна-палітычная канцэпцыя, якая імкнецца пазбягаць ідэалагічна абумоўленай палітычнай палярызацыі, а таксама канфрантацыйных формаў палітычнай барацьбы. Цэнтрысцкія палітычныя сілы характарызуюцца памяркоўнымі, кампраміснымі дзеяннямі нерадыкальнага характару. Згодна з асновамі паліталогіі, цэнтрызм звычайна выяўляецца ў імкненні палітычных суб'ектаў прыняць ідэйна прамежкавае становішча паміж правымі і левымі, дэмакратычнымі і кансерватыўнымі, ліберальнымі і камуністычнымі групоўкамі і плынямі, заняць фармальна нейтральную пазіцыю. Звычайна такія партыі ўзнікаюць як альтэрнатыва радыкалам. Пры гэтым нагадаем, што сапраўды радыкальных палітычных сіл у Беларусі на дадзены момант проста няма. Зразумела, калі не лічыць радыкаламі прыхільнікаў сённяшняй улады, якія часам адкрыта заклікаюць фактычна пазбавіць апанентаў права на існаванне.

ТАК ДУМАЮ!

## *Калі б пошліна была закладзена ў кошт паліва, пытанняў не было б...*

Я не супраць падаткаў, але... Паколькі дзяржава існуе за кошт грамадзян, то ўлада павінна ўсяляк садзейнічаць, каб працоўныя даходы былі высокімі, каб, адлічыўшы на падаткі, грамадзяніну заставалася на годнае існаванне. Хацелася б ведаць, што робіць улада ў гэтым напрамку?

Чаму людзі выступаюць супраць дзяржпошліны на аўтамабілі? Таму што з'яўленне такога падатку неабгрунтавана. Калі б пошліна была закладзена ў кошт паліва, пытанняў не было б: колькі эксплуатуеш дарогу — столькі і заплаціш. А так што? Адкуль мы будзем ведаць, куды ідуць аўтамабільныя падаткі? Добра, калі на рамонт дарог. Але ці будзе так?

Уражвае бюракратычная машына ўлады. Хто-небудзь з так званых народных абраннікаў — дэпутатаў прагаласаваў супраць аўтападатку, выказаў меркаванне, што нельга ў такім выглядзе яго прымаць, што як мінімум сістэму трэба ўдасканаліць, а ўжо потым выносіць на галасаванне ў парламенце?

**Васіль КАРКАНІЦА.**

*г.Салігорск.*

ИЗ ПИСЬМА...

## *Нужны две партии*

В Беларуси нас, народ, некому защищать. Поэтому мы вынуждены сами себя защищать. Считаю, что в нашей стране должно быть две партии и обе пусть участвуют в обсуждении всех вопросов совместно с правительством, постоянно интересуются жизнью народа и помогают ликвидировать все недостатки, допущенные властями.

**Леонид РАКОВЕЦ.**

*г.Любань.*

ТАКАЯ ЖИЗНЬ

## *На себя...*

Мы часто спрашиваем друг у друга, работает или не работает человек. Встретил знакомого, а он задал тот же вопрос... Я ему с улыбкой:

— Работаю. Только на себя, а не на дядю, как раньше.

— А где и что делаешь?

— Дома фирму открыл. Скоро весна, семена готовим с женой, высадим на свой огород. Забот в своем доме хватает, и теперь работаем на себя, помогают и дети, и внуки. Приятно работать на себя...

**Валерий БЫСОВ.**

*г.Кричев.*

АБЗАЦЕМ

## *На дворцы деньги есть, а на приют — нет?*

Знаю, что к чемпионату в столице построили еще один ледовый дворец, на строительство которого затрачены громадные деньги. А на приют для животных денег не находится. Обидно!..

**Розалия РУБИНЧИК, зоозащитница.**

*Минск.*

БОЛЬ

## *О, як нам далёка да ўкраінцаў...*

Пішу гэтыя радкі, а на вачах — слёзы. Ад роспачы і болю. Гляджу ў нядзелю па інтэрнэце Майдан: дзясяткі тысяч украінцаў спяваюць гімн на роднай мове. Святары, усе як адзін, моляцца на ўкраінскай мове.

А ў нас? Чыноўнікі на чале з А.Лукашэнкам вымаўляюць некалькі беларускіх слоў толькі тады, калі хочуць паздзекавацца з апазіцыі. Прадстаўнікі Рускай праваслаўнай царквы ў большасці сваёй наогул не валодаюць беларускай мовай...

Вось і пануе ў нас чужое слова. А мова — гэта тое галоўнае, што можа аб'яднаць людзей у нацыю. Пакуль жа мы толькі насельнікі, якім яшчэ гуртавацца ды гуртавацца. О, як нам далёка да ўкраінцаў...

А мо якраз гэтага, згуртаванасці, і не хочуць сённяшнія ўлады? Ці не іх лозунг — "Разделяй и властвуй"?

**Сяргей ЛЕЎЧЫК.**

*Мінск.*

ПАДЗЕЯ

# «Звяртацца да Бога на роднай мове...»

На філалагічным факультэце БДУ адбылася сапраўды знакавая падзея: студэнты і выкладчыкі з розных факультэтаў прыйшлі на прэзентацыю вядомага ўжо не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі "**Энцыклапедычнага слоўніка рэлігійнай лексікі беларускай мовы",** аўтарамі якога з'яўляюцца ксёндз-дэкан Мінскага касцёла Святога Сымона і Святой Алены, кандыдат гістарычных навук ***Уладзіслаў Завальнюк,*** а таксама доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ ***Мікалай Прыгодзіч*** і выкладчык-метадыст беларускай мовы і літаратуры, выдатнік народнай асветы Беларусі *Валянціна Раманцэвіч.*

Вяла прэзентацыю слынны даследчык рэлігійнай лексікі беларускай мовы кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай і рускай моў БАТУ Ірына Уладзіміраўна Будзько. Яна справядліва адзначыла, што выданне слоўніка беларускае грамадства чакала вельмі доўга. На сустрэчы вялася гаворка пра асаблівасць беларускай культуры і менталітэту: спрадвеку на нашых землях змаглі дастаткова талерантна ўжывацца разнастайныя рэлігійныя накірункі, у нас не было яскравых праяў рэлігійнай варожасці.

Калі ў 1990-я гады пачалося актыўнае ўжыванне беларускай мовы ў сакральнай сферы грамадства, з'явілася патрэба дадатковай распрацоўкі рэлігійнай лексікі. Да таго ж была праблема называння адных і тых жа рэалій у праваслаўным і каталіцкім асяроддзі па-рознаму, што звязана з тым, што Праваслаўная Царква развівала сваю тэрміналогію ў традыцыі Slavia Orthodoxa, а Каталіцкі Касцёл вёў сваю дзейнасць у культурна-асветніцкай прасторы Slavia Latina.

Ірына Уладзіміраўна зазначыла, што слоўнік паказвае ўсё багацце сакральнай лексікі беларускай мовы, уключаючы лексіку і нехрысціянскіх веравызнанняў.

Адзін з аўтараў, Мікалай Рыгоравіч Прыгодзіч, падкрэсліўшы, што выхад з друку слоўніка быў прымеркаваны да святкавання 1025-годдзя хрышчэння Русі, адзначыў: *"Поліканфесійнасць грамадскага жыцця сённяшняй Беларусі патрабуе адэкватнага разумення не толькі тых намінацый, з якімі сустракаюцца прыхільнікі канкрэтных рэлігійных напрамкаў, але і прадстаўнікі іншых груп вернікаў, увогуле розныя слаі грамадства..."*

Выклікала жывы інтарэс у слухачоў выступленне выкладчыка-метадыста беларускай мовы і літаратуры, выдатніка народнай асветы Беларусі **Валянціны Карлаўны Раманцэвіч,** якая змагла знайсці падыход да студэнтаў розных факультэтаў і розных курсаў, апавядаючы, напрыклад, пра тое, як прыйшлося збіраць матэрыял у слоўнік, бываючы на сходах у прадстаўнікоў шматлікіх веравызнанняў на Беларусі, або пра тое, як часта даводзіцца тлумачыць недасведчаным розніцу паміж абразом і ідалам.

Высокую ацэнку працы далі і рэцэнзенты слоўніка. Так, доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі **Аляксандр Мікалаевіч Булыка** падкрэсліў важнасць кнігі, якая з'яўляецца першай спробай у сучаснай беларусістыцы даць сістэматызаваны звод актуальнай рэлігійнай лексікі, якой паступова насычаецца мастацкая літаратура, публіцыстыка, мова сродкаў масавай інфармацыі.

Доктар філалагічных навук прафесар **Адам Восіпавіч Мальдзіс,** выступаючы ў крыху жартаўлівай манеры, змог у чарговы раз пераканаць аўдыторыю, што да Бога можна і неабходна звяртацца на сваёй мове, а для гэтага трэба яе ведаць, асабліва ў сферы рэлігійнай. Выдатны прамоўца, ён падкрэсліў кансалідуючую ролю працы для беларускай нацыі і па гэтай прычыне прапанаваў вылучыць аўтарскі калектыў на Дзяржаўную прэмію "За духоўнае адраджэнне", што аўдыторыя падтрымала апладысментамі. У развіццё гэтай думкі доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ **Вячаслаў Пятровіч Рагойша,** выказаўшыся ад імя ўдзельнікаў прэзентацыі, трапна заўважыў, што *"гэты слоўнік працуе на ўмацаванне культурна-моўнай бяспекі Беларусі".*

**Ларыса ГЕДЗІМІН, кандыдат філалагічных навук.**

КВАРТИРНЫЙ ВОПРОС

*Дмитрий КУХАРЕВИЧ:*

# «Пока государству выгодны высокие цены на недвижимость, они будут такими»

*В начале года власти озвучили свои планы по строительству жилья в Минске: строить меньше, развивать города-спутники. В то же время Александр Лукашенко заявил, что стоимость квадратного метра жилья для нуждающихся не должна превышать среднюю зарплату по стране.*

*Как на эти заявления отреагирует столичный рынок недвижимости: ростом цен на жилье или, наоборот, цены на квартиры могут снизиться? Есть ли смысл обзаводиться новым жильем сейчас или лучше подождать? На эти и другие вопросы ответил директор Центра оценки и недвижимости "Эксперт"* ***Дмитрий КУХАРЕВИЧ****.*





— Плотность населения в Минске действительно одна из самых высоких в Европе. Население Минска составляет около 20% от численности населения Беларуси, а по объему экономики — все 50%. Дальнейшее уплотнение столицы чревато социальными последствиями.

С другой стороны, снижение количества участков под застройку повлияет в будущем на качество и количество предложений на столичном рынке недвижимости. Дефицит будет порождать рост стоимости квадратного метра. Некоторые специалисты высказывают предположение, что через 3—4 года цена квадратного метра в Минске может увеличиться вдвое по отношению к сегодняшней цене. Лично я не берусь делать такой долгосрочный прогноз, поскольку допускаю, что озвученные и Александром Лукашенко, и другими чиновниками планы по развитию городов-спутников и т.д. могут корректироваться. Могу высказать свои предположения только на ближайший год. Думаю, что существенного роста цен на жилье в 2014 году не будет. Да, сейчас наблюдается небольшое оживление на рынке недвижимости, потому что в конце прошлого года ситуация была просто аховая: рынок замер, некоторые риелторские компании не принимали ни одного телефонного звонка в день от потенциальных покупателей. Например, в декабре количество сделок с квартирами в Минске было меньше своего среднего значения за прошлые годы на 25%, а в ноябре — на 35%. Сейчас некоторое улучшение ситуации налицо, но, чтобы эта тенденция продолжалась и дальше, нужен хороший рост экономики, что, учитывая неблагоприятные прогнозы, маловероятно.

**— Если соотносить затраты на строительство, учесть географическое положение Минска, доходы населения, сколько должна стоить квартира в Минске?**

— Вопрос риторический. Можно делать сколько угодно расчетов, говорить, что цена одного квадратного метра должна равняться средней зарплате, но пока государству выгодны высокие цены на недвижимость, они будут такими.

**— Не кажется ли вам, что цены на новые квартиры в Минске достигли своего максимума? Застройщики многих жилых комплексов с прошлого года не могут реализовать квартиры, покупателя не привлекают даже выгодные предложения о рассрочке.**

— Когда банковские кредиты недоступны и количество сделок с недвижимостью сокращается, застройщики, хочешь не хочешь, будут предлагать рассрочки и устраивать различные акции. На мой взгляд, ориентиром на текущий год являются цены на уровне 1150—1200 долларов за 1 кв. метр при долевом строительстве жилья в Минске в спальных районах. Причем квартиры в новостройках по адекватным ценам реализуются на рынке без проблем.

**— Недавно "Белгазпромбанк" возобновил выдачу кредитов на жилье. Но процентная ставка очень высокая — 46 процентов. Дмитрий, как вы думаете, доживем ли мы до того времени, когда кредиты на строительство жилья станут доступными и тем самым повлияют на рынок недвижимости?**

— Зачем так пессимистично, конечно, доживем. Полагаю, что в следующем году ставки по кредитам на строительство жилья вернутся на уровень привычных — 15—20% годовых. А нынешние 46% в месяц — это следствие текущей ситуации в экономике. Все понимают, что мало найдется людей, которые смогут и захотят выплачивать такие кредиты, и это предложение "Белгазпромбанка" не окажет существенного влияния на рынок недвижимости.

Однако ставки по депозитам ощутимо уменьшились в январе, значит, скоро должны снизиться и ставки по кредитам.

**— Сегодня по оценкам риелторов, средняя цена квадратного метра в Минске на вторичном рынке около 1770 долларов. На ваш взгляд, это реальная цена?**

— Это цена предложения, средние "хотелки" продавцов. Когда дело доходит до реальной продажи, то, как правило, продавцы идут на уступки и делают неплохие скидки, в среднем 5—7, а иногда и 10—15%. Наблюдается интересная ситуация: чем дороже квартира, тем на большую скидку покупатель может рассчитывать. Например, не так давно квартира в Минске с заявленной ценой в 300 тысяч долларов была продана даже меньше, чем за 250 тысяч долларов.

Ситуация с офисами примерно аналогичная. Небольшие помещения площадью до 50 кв. метров по ценам до 2 тысяч долларов за один квадратный метр продаются, а все, что больше, покупатели брать не спешат, требуя хорошую скидку.

**— Ваш совет тем, кто планирует решать жилищный вопрос в 2014 году: покупать квартиру немедленно или подождать, что цены к концу года снизятся?**

— Не думаю, что цены упадут настолько, чтобы пытаться на этом сыграть. Если квартиру вы покупаете для того, чтобы в ней жить, вас устраивает данный вариант и позволяют финансы, лучше решать жилищный вопрос сейчас.

**— Дмитрий, объясните, почему складывается парадоксальная ситуация: новостроек в Минске пруд пруди, а очереди на улучшение жилья не сокращаются?**

— Пока есть возможность приобрести что-то по ценам ниже рыночных (читай льготным), желающие будут всегда. Кроме того, такое большое количество минчан, желающих на льготных условиях улучшить свои жилищные условия (а сегодня в Минске на очереди нуждающихся в улучшении жилищных условий состоит более 600 тысяч человек), связано с общим количеством проживающих в Минске людей. Это число никак не зависит от количества новостроек и к рынку недвижимости имеет слабое отношение. И если честно, то я считаю, что имеет смысл предоставлять льготникам типовое жилье в городах-спутниках, а в Минске строить действительно качественное жилье на общих основаниях.

Хотел бы отметить, что минчане не так часто покупают квартиры в Минске, в основном они совершают обмены. Основные покупатели доступного недорого жилья в столице — иногородние. По данным риелторских агентств, чаще всего в Минске квартиры приобретают жители Гродненской и Брестской областей.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ДА ВЕДАМА

## *Дапамога на дзяцей крыху падрасла*

З лютага памер штомесячнай дапамогі па доглядзе за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў складае: на першае дзіця — 1 млн 946 тыс. 300 рублёў, на другое і наступных — 2 млн 224 тыс. 300, а на дзіця-інваліда ва ўзросце да 3 гадоў — 2 млн 502 тыс. 400 рублёў.

Як вядома, з мінулага года дапамога на дзяцей у нашай краіне прывязана да сярэднямесячнай зарплаты і дыферэнцыруецца ў залежнасці ад колькасці дзяцей. Для разліку памеру гэтага віду дапамогі з 1 лютага па 30 красавіка 2014 г. ужываецца сярэднямесячная заработная плата за чацвёрты квартал 2013 года. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, гэты паказчык у кастрычніку—снежні мінулага года склаў 5 млн 560 тыс. 846 рублёў.

КРЫМІНАЛ

## *Нявестка дыпламата пагарэла на гераіне*

У Душанбэ вынеслі прысуд Муштары Мубаракшоевай — нявестцы пасла Таджыкістана ў Беларусі Казідаўлата Каімдодава, якая была затрымана некалькі месяцаў таму па падазрэнні ў перавозцы гераіну.

Як паведамляе таджыкская служба Радыё Свабода, жанчыну прызналі вінаватай у кантрабандзе наркотыкаў у асабліва буйным памеры. Яе асудзілі да 12 з паловай гадоў турмы.

Муштары Мубаракшоева і яе муж Каімдод Каімдодаў былі затрыманы ў аэрапорце Душанбэ 16 верасня мінулага года.

Муж і жонка збіраліся вылецець у Мінск транзітам праз Маскву. Пры праверцы іх багажу быў знойдзены пакет з двума з паловай кілаграмамі гераіну. Наркотыкі былі схаваны ў патаемным дне чамадана, які належаў мужу.

Пазней мясцовая пракуратура паведаміла, што па справе аб транспарціроўцы наркотыкаў у якасці падазронай праходзіць толькі Мубаракшоева. Чаму да справы не быў прыцягнуты муж, не ўдакладнялася.

Муж Мубаракшоевай, сын пасла Таджыкістана ў Беларусі, як паведамлялася, пражывае ў Мінску і працуе рэферэнтам Эканамічнага суда Беларусі. Яго бацька, былы віцэ-прэм'ер Казідаўлат Каімдодаў, працуе на дыпламатычнай службе з сярэдзіны 2000-х гадоў.

ЗДАРЭННІ

## *Ванечка можа варушыць двума пальцамі*

*У ліпені мінулага года пацігадоваму хлопчыку з Пінска адарвала руку пральнай машынай. Беларускія медыкі яе прышылі, зараз Ванечка ідзе на папраўку.*

Усё адбылося імгненна. Пяцігадовае дзіця адчыніла дзверцы пральнай машыны, якая працавала, каб закінуць у яе сваю маечку. Пакрыва, што было ў машыне з другімі рэчамі, абматала руку хлопчыку і закруціла яе ў барабан. Па словах пінскіх медыкаў, Ванечку цалкам адарвала руку. Брыгада "хуткай", якая прыбыла на месца здарэння імгненна, правяла супрацьшокавыя мерапрыемствы, і хлопчыка на рэанімабілі, не губляючы часу, даставілі ў Мінскую абласную бальніцу. У аддзяленні мікрахірургіі была паспяхова праведзена рэплантацыя.

Зараз Ванечка дома, з бацькамі. У кастрычніку яму прызначылі трэцюю групу інваліднасці. Як паведаміла TUT.BY яго мама, Аліна Фёдараўна, дзіця адчувае сябе добра, ідзе на папраўку. Пакуль хлопчык можа варушыць двума пальцамі. І бацькі, і ўрачы спадзяюцца, што ў будучым рука хлопчыка цалкам адновіцца. Для гэтага мама з Ванечкам праз кожныя два тыдні ездзяць у Мінск на масажы і працэдуры. Паездкі затратныя. Дапамагаюць родныя і блізкія. Акрамя таго, грошы збірала і група ў садку, дзе займаўся Ваня.

"Ванька зайшоў у садок падзякаваць за дапамогу і сам дзеткам асабіста сказаў, каб ніхто з дзетак да пральнай машыны блізка не падыходзіў", — распавяла мама хлопчыка. Як прызналася Аліна Фёдараўна, інцыдэнт сур'ёзна падарваў і яе здароўе: "Пасля гэтага ў мяне дрэнна з сэрцам стала, праблемы вялікія. Гэта быў шок. Тым больш усё на вачах: бачыць свайго дзіцяці без рукі..."

Пакуль злашчасную пральную машыну не выкінулі — сям'я мае намер падаць на вытворцу тэхнікі ў суд.

"Мы збіраемся ў суд падаваць, — кажа Аліна Фёдараўна. — Будзем яшчэ незалежную экспертызу праводзіць і Ваньку судмедэкспертызу будзем рабіць".

Як такое магло адбыцца, пакуль дакладна адказаць складана. Па словах Аліны Фёдараўны, адбыўся збой і "адмовіла праграма блакіравання дзверцы".

АФІЦЫЙНА

## *Беспрацоўе Мінску не пагражае*

Як паведамілі ў галоўным статыстычным упраўленні Мінска, узровень зарэгістраванага беспрацоўя на канец снежня 2013 года склаў 0,2% ад эканамічна актыўнага насельніцтва (на канец снежня 2012 года — 0,2%).

Каэфіцыент замяшчэння работнікаў (адносіны ліку прынятых да ліку звольненых) у снежні 2013 года склаў 0,927 (у снежні 2012 года — 0,923). Колькасць звольненых работнікаў арганізацый Мінска перавысіла колькасць прынятых на 1,1 тыс. чалавек (у снежні 2012 года таксама на 1,1 тыс. чалавек).

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ

*Елена МОЛОЧКО*



# Что в спальне у президента, или Правило опрокинутого соусника

Президенты влюбляются, президенты разводятся. Французы шутят в "Твиттере": продается мотороллер, почти совсем не использованный, с небольшим пробегом. Намек понятный — от Елисейского дворца до квартиры, куда Олланд ездил на мотороллере встречаться с Гайе, всего-то метров 150.

Только что объявлено, что этой весной по решению суда наконец будет свободен от официальных брачных уз Сильвио Берлускони, чей семейный союз рухнул из-за девы, моложе его на 49 лет (развод длился 5 долгих лет!). Сейчас только уточняется сумма алиментов бывшей жене — 3 миллиона евро в месяц или 1,4 миллиона? Некоторое время назад, как помним, и Владимир Путин сделал усилие, объявив стране то, что было известно и так почти каждому: их брак с Людмилой иссяк. Правда, без гривуазных подробностей, как в случаях с Берлускони и Олландом. Но там роковую роль в шумихе и разводе сыграли журналисты, вытащив на свет Божий неоднозначные связи лидеров своих стран. В России, конечно, таблоиды тоже полоскали личную жизнь В.Путина, но сделать из этих сведений общественный скандал на полмира побаивались, хотя имя разлучницы, кажется, известно и дворнику. Но — не те возможности, можно сильно схлопотать по пачке (или по банковскому счету владельца издания).

Череда молодых женщин, сопровождающих белорусского президента, тоже не остается без внимания со стороны общественного мнения, что скрывать. И тоже зачастую обсуждается каждая деталь. Однажды журналисты "Еврорадио" даже дозвонились актрисе Купаловского театра Марте Голубевой, которая, впрочем, кроме того, что сама выбирает платье, когда ее приглашают в высокий эскорт, ничего не сказала. Железная выдержка. От недостатка точной информации многое наверняка нами додумывается — естественно, не в пользу обсуждаемых, такова уж природа слухов. Возможно, когда-нибудь Александр Лукашенко захочет публично уточнить свое семейное положение. Но пока я задам вопрос с другой стороны: а имеют ли право избиратели настаивать на публичном раздевании первого лица? Сами-то не без греха... И лично для меня это не аксиома: страна должна быть посвящена в спальную жизнь президента. А собственно, почему это есть тема для обсуждения и осуждения?

В этом смысле мне понравились французы. Все замерли, ожидая, как во время недавней пресс-конференции свободные журналисты Пятой республики "дожмут" Олланда. А что прозвучало? У президента спросили, что происходит в его личной жизни, а он только и ответил, что, мол, у каждого в жизни случаются трудные времена. И все. Французы дальше не пошли, переключились на вопросы внутренней политики. Мне показалось, что иностранцев это немного разочаровало...

И вот недавно известная французская журналистка Гелия Деленинс, пишущая для России, так объяснила эту щепетильность: не обсуждаем, потому что наша страна не хочет превращаться для всего мира в поставщика дешевых шоу. "Нам эта тема не интересна. Хотя это не значит, что французы оправдывают своего президента". Просто у французского общества, пояснила Делеринс, как и у любого, есть собственные коды поведения. Когда заходит речь о национальных символах, а президент — как раз такой символ, эти коды срабатывают. Какие именно? В первую очередь воспитание. Дипломатия — не зря самая французская из наук. А первое правило воспитанного поведения — не замечать опрокинутого соусника. Вышел конфуз — сделаем вид, что его не видим. Чем постыднее ситуация, тем упорнее делаем вид, что не видим. Публичные покаяния неверных мужей во Франции невозможны, настаивает журналистка. В конце концов, это не камильфо. А для французов это нешуточное понятие. Как перепутать порядок вин за обедом.

Другое дело деньги, финансы. О, здесь француз непреклонен. Если бы паче чаяния стало известно, что французский президент возил свою любовницу за счет казны на отдых, делал ей подарки из Лувра, вот тогда сердца разъяренных налогоплательщиков могли взорваться. А неразбериха в спальне? Ну что ж, госбюджет от этого не страдает. Адюльтер первого лица можно пережить. Скандал забудется, Франция останется.

Так же и в Италии. Свобода от брачных уз Берлускони — его личное дело, интрижки 77-летнего ловеласа если и предмет интереса, то крайне узкого круга людей, читающих таблоиды. Другое дело финансовое мошенничество его компании "Медиасет", за что не менее девяти месяцев Берлускони предстоит провести на общественно-полезных работах. На каких именно, суд объявит в апреле. И тут уж, будьте уверены, общество точно проследит, чтобы бывший премьер не уклонился от наказания. Здесь западная общественная мораль непреклонна: в дилемме "любовь или кошелек" она явно озабочена последним. Тем более если это касается первых лиц.

НА ЎЛАСНЫЯ ВОЧЫ

# Сакрэты танных вандровак

*Калі вы задумваецеся над тым, каб адмовіцца ад турыстычных пакетаў, і жадаеце навучыцца падарожнічаць самастойна, гэты артыкул будзе для вас карысны. Насамрэч падарожжа не патрабуе астранамічных грошай...*



## Дзе жыць?

**Кемпінг ці дом на калёсах.** Вандраваць на ўласным аўтафургончыку — значыць не плаціць за жыллё, імправізаваць з маршрутамі і залежаць толькі ад коштаў на паліва. Кемпінг — гэта лагер з абсталяванай паркоўкай, прыбіральнямі, хаткамі лёгкага тыпу ці месцамі для намётаў.

**Намёт.** Дадзены варыянт наўрад ці спрацуе ў еўрапейскіх краінах. Эстэтыка пражывання ў намёце ўласцівая паходам па Беларусі. Ды і рамантыку пакарэння Карпат і падарожжаў да Байкала складана ўявіць без намёта, спальніка і "пенкі".

Даволі танны адпачынак — Крым: горы, мора, намёт... Дарэчы, калі надвор'е дазваляе, можна правесці ноч і пад зорным небам.

Праўда, калі вы вырашылі адпачываць дзікуном, зараней паклапаціцеся пра бяспеку, бо зладзеяў хапае. Можаце застацца без грошай, дакументаў і каштоўных рэчаў.

**Каўчсёрфінг (сайт — couchsurfing.org)** — бясплатны абмен жыллём у розных гарадах і краінах свету. Ледзь не ва ўсіх кропках планеты ёсць людзі, якія гатовыя даць вам прытулак абсалютна бясплатна. Адкуль такая дабрачыннасць? Нехта мае патрэбу ў камунікацыі. Хтосьці прымае гасцей дзеля моўнай практыкі альбо проста так.

Сярэдняя працягласць знаходжання на такой кватэры — 2—3 ночы. Праўда, бываюць і выключэнні: напрыклад, аднойчы ў Санкт-Пецярбургу мне давялося затрымацца на месяц.

Калі вы збіраецеся знайсці жыллё менавіта па такой сістэме, то не забудзьцеся пра сувеніры. Па сваім вопыце ведаю, што добра ідуць грыльяж, айчынная згушчанка, зефір ці шакалад "Алёнка".

Трэба дадаць, што каўчсёрфінг — гэта заўжды кот у мяшку. Вы можаце начаваць на матрацы ў камуналцы альбо на двухспальным ложку ў шыкоўным катэджы. Часцей за ўсё інфармацыі пра патэнцыяльнае месца вашага пражывання — мінімум.

**Airbnb.com** — анлайн-пляцоўка для пошуку і кароткатэрміновай арэнды прыватнага жылля па ўсім свеце. Але тут ужо трэба плаціць.

Калі вы шукаеце не хостэл ці гатэль, а менавіта кватэру на суткі ці больш, гэты сайт для вас. Airbnb чаго толькі не прапануе — замкі, катэджы, халупы, іглу і нават... хаты на дрэве. Кошты значна ніжэйшыя за гатэльныя, а ўзровень камфорту і незалежнасці больш высокі. Ёсць сэнс скарыстацца такім варыянтам, калі вы вандруеце кампаніяй, — эканомія відавочная. Адзіны мінус: вельмі вялікі сэрвісны збор — ад 6 да 12 працэнтаў.

**Booking.com** — універсальны пошукавы агрэгатар, які збірае інфармацыю пра розныя гатэлі і хостэлы па ўсім свеце. Жыллё тут можна знайсці на любы густ і колер. Кошты — ад некалькіх цэнтаў (напрыклад, у Індыі) да дарагіх нумароў. Трэба ведаць таксама, што для таго, каб забраніраваць нумар, патрэбна крэдытная картка.

## У шлях-дарогу...

**Аўтастоп.** Самы танны варыянт для рызыкоўных людзей. Аўтастопам можна даехаць да Віцебска, выйсці на трасу Е-95 і праз 12 гадзін (у лепшым выпадку) дыхаць піцерскім паветрам. Можна на працягу тыдня дабірацца на фурах да Байкала.

Істотны мінус — суцэльная непрадказальнасць.

**На "сабаках".** Амаль кожны маршрут можна разбіць на некалькі частак, што зменшыць кошт квітка ў 2—3 разы.

Напрыклад, па маршруце Мінск—Брэст—Цярэспаль—Лукаў—Седльцэ—Варшава да польскай сталіцы можна даехаць усяго за 10 еўра. Да Львова на "перакладных" — за 150 тысяч рублёў, да Кіева — за 130 тысяч.

**Карпулінг** — сумесныя паездкі на аўтамабілі са спадарожнікамі.

З дапамогай інтэрнэту можна знайсці вадзіцеля, які рухаецца ў адным з вамі напрамку. **Poputchik.by** — адзін з першых беларускіх сэрвісаў карпулінга.

**Разбіўка па мяжы.** Істотна зменшыць выдаткі падчас падарожжа можна дзякуючы нізкаму мясцоваму тарыфу на квіткі, які дзейнічае ў краінах.

Як гэта працуе? Калі, напрыклад, ваша мэта — Санкт-Пецярбург, набывайце два квіткі на адзін цягнік: Мінск—Гарадок і Гарадок—Санкт-Пецярбург. Білеты можна ўзяць на адно і тое ж месца ці ў той жа самы вагон, калі купляеце зараней. У дадзеным выпадку ўчастак Мінск—Гарадок вы праязджаеце па беларускім тарыфе, а не па міжнародным. Эканомія — каля 140 тысяч рублёў, і такая схема працуе для розных міжнародных цягнікоў.

**Лаўкосты** — бюджэтныя авіякампаніі, і гэта самае сапраўднае акно ў Еўропу. Найбольш папулярныя кампаніі — Ryanair, Wizzair, AirBaltic, EasyJet.

З Вільнюса ці Варшавы можна даляцець у Стакгольм, Осла, Балонню, Брусель або Рым за якіх-небудзь 15—20 еўра ці нават менш.

Якія нязручнасці пры гэтым? Іх таксама хапае. Напрыклад, квіткі пасля пакупкі немагчыма здаць назад. Нумары месцаў у самалёце адсутнічаюць, таму лепшыя займаюць найбольш спрытныя і хуткія. Ёсць абмежаванні па вазе багажу.

Самастойна шукаць квіткі на самалёт можна на **skyscanner.net** — бясплатным пошукавым анлайн-рэсурсе танных авіябілетаў.

## Карысныя парады

Для тых, хто марыць патрапіць у Стамбул ці павандраваць па Грузіі, прапаную цікавыя варыянты танных пералётаў. З Кіева да Кутаісі можна даляцець за 27 еўра, скарыстаўшыся паслугамі авіякампаніі Wizz Air. Адправіцца ў Стамбул з Львова можна ўсяго за 37 еўра, дзякуючы PegasusAirlines.

Пераезд на аўтобусе звычайна займае больш часу ў параўнанні з цягніком, але каштуе значна менш. Асаблівай любоўю ў вандроўнікаў карыстаюцца:

**PolskiBus**. На аўтобусах гэтай польскай кампаніі можна аб'ехаць Польшчу ўсяго за некалькі злотых. Кошт квітка да Прагі ці Берліна — 10 еўра, да Вены — 7 еўра. Выбіраць самыя прывабныя варыянты лепш на сайце **bus-polski.pl**, а набываць квіткі — на інтэрнэт-рэсурсе **polskibus.com**.

**Ecolines.** Адна з найбольш папулярных еўрапейскіх сетак міжнародных аўтобусных перавозак. Часам прапануюцца неверагодныя зніжкі. Напрыклад, не так даўно з Мінска да Масквы можна было заехаць за 3 еўра.

**LuxExpress, SimpleExpress.** Гэты аператар аўтобусных ліній спецыялізуецца ў асноўным на краінах Балтыі. Падчас акцый можна "злавіць" квіткі з Мінска да Рыгі за 6 еўра і з Мінска да Таліна за 7 еўра.

**FlixBus і BerlinLinienBus** — нямецкія перавозчыкі, якія прапануюць аб'ехаць усю Германію па невысокіх коштах, а пасля пабываць у Галандыі, Бельгіі ці Даніі.

...Не трэба лічыць, быццам вандруюць толькі багатыя. Проста павярніце сваё жыццё крыху ў іншы бок, і ваш адпачынак зайграе новымі колерамі.

**Віялета САЎЧЫЦ,**
**студэнтка БДУ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
4 ЛЮТАГА 2014 г.

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## Каўбасы са зніжкамі

Рэкламная акцыя "Шчодрыя дні з мясакамбінатамі Міншчыны" распачалася ў больш як 50 буйных гандлёвых аб'ектах сталіцы на пачатку лютага.

Сваю прадукцыю прадставілі найбуйнейшыя прадпрыемствы Мінскай вобласці — ААТ "Мінскі мясакамбінат", ААТ "Барысаўскі мясакамбінат", ААТ "Слуцкі мясакамбінат".

Акцыйная лінейка прадукцыі складзе каля 30 пазіцый — каўбасы вараныя і сыравэнджаныя, салямі і сервелат, вяндліна, сасіскі і сардэлькі, мясная вэнджаніна і далікатэсныя вырабы, пельмені і мясныя кансервы.

У перыяд акцыі будуць дзейнічаць спецыяльныя адпускныя кошты вытворцаў са зніжэннем ад 5% да 12%, а таксама зніжаны 5—10%-ныя гандлёвыя надбаўкі магазінаў. Акцыя прадоўжыцца да 7 лютага.

ФАКТ

## Часцей з'язджаюць будаўнікі

У мінулым годзе афіцыйна працаваць за мяжу з'ехалі 3288 беларусаў. З іх 2023 — гэта рабочыя. У асноўным яны працавалі па будаўнічых спецыяльнасцях — мулярамі, электразваршчыкамі, абліцоўшчыкамі, малярамі. Таксама 755 чалавек былі заняты ў сферы абслугоўвання і гандлю, 180 — у сельскай гаспадарцы. 318 уладкаваліся ў якасці кваліфікаваных работнікаў і спецыялістаў, яшчэ 12 — на пасады кіраўнікоў.

СТАЛІЦА

## Запазычанасць па камуналцы больш за 6 мільярдаў

У мінулым годзе ў Мінску ў выніку працяглай нявыплаты жыллёва-камунальных паслуг 11 сем'яў былі пераселены ў памяшканні з меншай жылой плошчай. Усяго ў горадзе на 1 студзеня 2014 г. пратэрмінаваную запазычанасць за жыллёва-камунальныя паслугі мелі 19 тысяч 355 уласнікаў і наймальнікаў кватэр. Яны запазычылі за мінулы год больш як 6,1 мільярда рублёў. У ліку неплацельшчыкаў 96% — жыхары з запазычанасцю да трох месяцаў, 1,6% маюць запазычанасць ад трох да шасці месяцаў, 1,1% — ад шасці месяцаў да года, 0,8% — ад аднаго да трох гадоў, 0,4% — звыш трох гадоў.

ВОПРОС

## Откуда деньги?

*Казалось бы, решение личного квартирного вопроса — событие радостное. Таковым оно было и для жительницы Пинска, купившей себе дорогую квартиру. Но ровно до тех пор, пока к ней не пришли сотрудники налоговой с вопросом: "Откуда у вас такие деньги?"*

В материалах дела значится, что квартира обошлась женщине в 440 миллионов рублей. В пересчете на валюту это получается около 46 тысяч долларов. По пинским меркам покупка довольно дорогая. В интернете за такие деньги предлагают приобрести хорошую "двушку" в центре города.

Но, быть может, эта рядовая сделка и не заинтересовала бы сотрудников местной налоговой инспекции, если бы не один факт: гражданка, купившая квартиру, с 2006-го по 2012 год официально нигде не работала.

*— Мы истребовали декларацию о доходах и имуществе за последние годы. Зарплату эта женщина не получала. Она отчиталась, что часть стоимости квартиры она покрыла за счет продажи машины. А недостающая сумма, по ее словам, была получена в дар от третьих лиц. Мы их вызывали, и они подтвердили факт передачи денег,* — раскрывают подробности дела на tyt.by инспекции МНС по Пинску.

Тем не менее конечная сумма в декларации о доходах в итоге так и не дотянула до стоимости квартиры. Расходы оказались выше доходов на 30 миллионов рублей. За это безработная жительница Пинска заплатила подоходный налог 3,2 миллиона рублей.

*— Данная гражданка вполне спокойно отнеслась к тому, что инспекторы заинтересовались ее доходами. И добровольно погасила выставленную сумму налога,* — говорят в городской инспекции Пинска.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Бацькавы ўрокі



Арцём Яфімавіч Баханькоў.

*— Ці чулі вы такое імя — Арцём Яфімавіч Баханькоў? — няўпэўнена запытаў, наведаўшыся ў рэдакцыю і па-добраму здзівіўшы бездакорным беларускім маўленнем, надзвычай інтэлігентны візіцёр. Прадставіўся:*

*— Аляксандр Арцёмавіч Баханькоў, кандыдат фізіка-тэхнічных навук. Не, вы не памыляецеся: вядомы мовазнаўца, доктар філалогіі, прафесар, аўтар і сааўтар шматлікіх слоўнікаў беларускай і рускай моў — мой бацька. Не так даўно яго імя грымела ў навуковых і асветніцкіх колах Беларусі, але за апошнія дванаццаць гадоў, як бацькі не стала, амаль нідзе не гучала. Зараз, на радасць, у сувязі з 90-годдзем з дня народзінаў бацькі тое-сёе нарэшце з'яўляецца ў друку, на радыё. А вас не зацікавіць ягоная асоба?*

Не зацікавіць? Не чулі?.. Сапраўды аўтарытэтнае імя. Ды на стале ў карэктара "Народнай Волі" штодзённым сябрам-дапаможнікам — важкія тамы акадэмічных тлумачальных слоўнікаў, на іх тытульных старонках імя вучонага адкрывае "парад" аўтараў, значыцца ў складзе рэдакцыйнай калегіі. Выданні яго дагэтуль пад рукой у навукоўцаў, выкладчыкаў, студэнтаў-філолагаў, як і настаўнікаў школ ужо не аднаго пакалення.

Грунтоўныя манаграфіі, шырокія даследаванні па гісторыі і развіцці лексічных багаццяў беларускай мовы (ажно 180 навуковых публікацый!) з-пад пяра Арцёма Баханькова адкрываюць неабсяжны жывы акіян роднага слова, без якога няма нацыі, няма народа па імені беларусы...

Ярка і плённа выяўляўся і магутны педагагічны талент вучонага, пільны клопат аб вырошчванні творчай змены — адданых сваёй справе даследчыкаў, ахоўнікаў і прымнажальнікаў найвялікшага духоўнага скарбу. Таму і пакінуў на сваім раз і назаўсёды абраным шляху глыбокі след у айчыннай навуцы, ва ўдзячнай памяці ўсіх, хто яго ведаў і любіў.

Адна з іх — колішняя супрацоўніца тагачаснага Інстытута мовазнаўства імя Я.Коласа Акадэміі навук Беларусі Ніна Міхайлаўна Лявончык, якая лічыць гады працы побач з такім спецыялістам і цудоўнейшым чалавекам дарункам лёсу:

— Мне вельмі пашчасціла, зялёным дзяўчом пасля сканчэння педінстытута трапіць у інстытут акадэмічны і апынуцца ў адным сектары з Арцёмам Яфімавічам Баханьковым. Калектыў там быў таленавіты і дружны, амаль кожны — асоба, прафесіянал! Старэйшыя калегі па-бацькоўску апекаваліся намі, маладымі. Зацікаўлена дапамагалі знайсці сваю каляіну, адчуць смак пазнання новага, што прыносіў кожны дзень.

Асабліва вылучаўся ў гэтым коле, пры ўсёй сваёй прыроджанай сціпласці, Арцём Яфімавіч Баханькоў. Уражвалі ягоная эрудыцыя, дасведчанасць у моўных пытаннях, сапраўдная апантанасць ва ўсім, што рабіў, — без шуму, упарта, карпатліва і надзіва вынікова. Ім рухала любоў!

Мы працавалі тады над 5-томным Тлумачальным слоўнікам. Удумны і праніклівы вучоны — тады яшчэ кандыдат, а неўзабаве і доктар навук, прафесар, свяціла, як сапраўдны бацька, песціў у далонях кожнае слоўца, каб глыбока пранікнуць у яго сэнс, раскрыць усю мудрасць, шматколернасць і шматзначнасць таго, што ў ім закладзена народнай мудрасцю і адточана цягам стагоддзяў. Раіўся з таварышамі, зноў шукаў і дапрацоўваў, а то і — куды дзявалася яго ціхмянасць! — прынцыпова спрачаўся, упэўнены ў сваёй праваце. Толькі б атрымалася як мага лепш, дакладней, прыгажэй, бліжэй да ісціны...

Яшчэ адзін дар старэйшага сябра — незвычайны па нашым часе — абсалютна каліграфічны почырк, якога я ні ў кога ўжо не сустракала. Па гэтым почырку і пазнала, хто ж аўтар вершаванага кампліменту на паштоўцы з цёплымі словамі!.. Толькі не падумайце чаго "такога". Проста напярэдадні адной інстытуцкай вечарыны Арцём Яфімавіч папрасіў мужчынскую палову калектыву сачыніць для паловы жаночай па кароткім вершыку. Толькі не падпісвацца пад тэкстам і канкрэтных адрасатак не прызначаць: хай выцягваюць з "латарэйнага" каша паперынкі і разгадваюць, каму ад каго. Дык я па почырку адразу здагадалася! Трэба ж, такая ўдача — мне трапіла... Аказалася, наш сур'ёзны, засяроджаны, не на жарт заглыблены з галавой у навуку Арцём Яфімавіч Баханькоў — яшчэ і паэтычная натура, вясёлы прыдумшчык і дабрэйшага сэрца чалавек! Як і яго цудоўная жоначка Валянціна Усцінаўна — бясконца абаяльная, прыветная, нібы сонейка. Яна працавала ў акадэмічнай навуковай бібліятэцы, таму мы часта бачылі яе і таксама вельмі любілі. Яны з мужам шчасліва "рыфмаваліся" ва ўсім. Талент — ён кругом талент.

Аповед Ніны Лявончык раззадорыў жаданне яшчэ падрабязней даведацца, якім жа быў у жыцці такі неардынарны чалавек. Самыя поўныя і доўгія паслужныя спісы з пералікам салідных навуковых прац наўрад ці дадуць аб тым вычарпальнае ўяўленне. Свой унёсак у фонд успамінаў лепш за ўсё зрабіць самаму блізкаму з тых, хто даражыць кожнай драбніцай у памяці сэрца, — сыну знанага мовазнаўцы **Аляксандру Арцёмавічу БАХАНЬКОВУ**. Ён успамінае...

## Прыцягненне

Бацька для мяне — ўсё. Так, усё-ўсё. І раней, і цяпер, і пакуль жыву. Яго 90-гадовы юбілей (адзначаны 29 студзеня) — маё асабістае свята.

Згадваю бацьку (дня не бывае без гэтага) і бачу дзівосную мясцінку — вёску Саламір'е на Полаччыне, родавае сямейнае гняздо. Тут нараджаліся і жывілі святой сялянскай працай сваю зямлю бацькавы продкі, стаяла дзедава хата, у якой з'явіўся на свет бацька, а праз колькі часу — і я. Гэта мая дарагая радзіма, выток жыцця, калыска духоўнага сталення, часцінка і пачатак вялікага, неабдымнага Сусвету. Ніколі не пагаджуся з тымі, хто бяздумна называе родны кут "малой радзімай". Якая ж яна малая, калі ў многім вызначае твой лёс, адорвае неацэннымі дарамі, адкрывае сэнс самага простага і ўзвышанага. Ты нараджаешся тут не толькі фізічна... І калі не духоўны калека, то дзе б ні пралеглі твае далейшыя шляхі, зноў і зноў будзеш вяртацца сюды — ці то ў думках, ці дабіраючыся ў глыбінку цягніком, рэйсавым аўтобусам, на ўласнай машыне, ды хоць сабе і на бензавозе ці пешшу... Радзіма цягне цябе, бы магніт, з неадольнай сілай. І бацька ніколі не імкнуўся гэтую сілу пераадолець. Яна трымала яго і ў самых цяжкіх выпрабаваннях.

...Мы ідзём побач росным летнім ранкам лясной дарогай з вудамі і ўсялякімі рыбацкімі "прычындаламі". Я яшчэ малы, бацька трымае мяне за руку. Але я не згублюся: побач з ім, такім спакойна-ўпэўненым, пачуваюся, як за каменнай сцяной. І ніколечкі не стамляюся, гатовы вось так ісці і ісці, удыхаючы свежасць раніцы, гаючы хваёвы водар.

Раптам перад намі — казка! У зялёным атачэнні раскінулася цуда-возера: на празрыстай, бы крышталь, воднай гладзі нібыта нехта зверху раскідаў густа-густа белыя лілеі. Вачэй не адвесці, не ўздыхнуць ад захаплення... Абодва маўчым, бы ў чароўным сне, здаецца, усё вакол струменіць цішыню, якую не парушае ні лёгкі пошум дрэў, ні ласкавы плёскат вады, ні птушыны гоман.

Нарэшце бацька ўстрапянуўся:

— Ну што, сынок, будзем рыбу лавіць?

— Будзем, будзем! — ачомаўся я.

Пашанцавала нам і з уловам, і з духмянай юшкай у кацялку на вогнішчы. Дадому мы (канечне ж, бацька ў маім суправаджэнні) прынесім паўнюткае вядро жывога срэбра. Галоўнае ж, з чым вярнуліся, — незабыўныя ўражанні таго дня, яны засталіся са мной назаўсёды. З гадамі, у вірлівай плыні новых уражанняў, тыя чары не развейваліся, не знікалі, бы далёкія прымхі. І паўтараліся, паўтараліся, паўтараліся... Бацька пры любой ступені занятасці адшукваў магчымасць наведацца ў свой зямны радзінны рай, напіцца яго жывой вады. Я — таксама.

Неяк летам выправіўся туды са сваім малодшым сынам Антосем, і ўсё было, як тады, у маім дзяцінстве — перажыванні, адкрыцці, нарастаючая ўпартая ўпэўненасць: вось тут — хай хто аспрэчвае тысячу разоў — найлепшая мясцінка ў цэлым свеце! І ўжо цяпер, спазнаўшы непаўторнасць і хараство іншых краёў, скажу тое самае. Тут — радзіма, твая зямля з яе подыхам і водарам, з ціхай, але такой уладарнай красой, гармоніяй гукаў і фарбаў. Ці не з гэтай жывой прыроднай гармоніі, музыкі зямлі нараджаюцца родныя гукі і словы, што паланілі бацьку, і ён прысвяціў ім жыццё? Каб толькі жыла спрадвечная мова ў сэрцы і на вуснах беларусаў, не дала ім згінуць у прорве небыцця.

## Гадзіннік «Победа»

Першы раз Арцём Баханькоў, сялянскі сын са звычайнай, але вельмі паважанай сям'і дбайных, працавітых руплііўцаў, выпраўляўся з роднага Саламір'я зусім падлеткам. Здатны да навукі, кемлівы і цікаўны хлопчык паехаў вучыцца ў Полацкі педагагічны тэхнікум. Было яму ўсяго сямнаццаць, калі ненадоўга завітаў у родную хату ўжо з пасведчаннем аб паспяховым сканчэнні вучэльні. У яго было прызначэнне ў Бікульніцкую пачатковую школу — адразу на пасаду загадчыка! Юны начальнік намагаўся напусціць на сябе знешнюю "дарослую" саліднасць, але па праўдзе, гэта не зусім удавалася. Тым не менш з усёй унутранай сур'ёзнасцю і адказнасцю ён акунуўся ў нязведаную, але жаданую справу. Ды нядоўга "акунаўся": грымнуў грозны 1941-ы. Бяда прыйшла ў родны дом. Тут ужо хутка даспелі падлеткі, дзеці.

І Арцём, і навучаны жыццём ягоны бацька (мой дзед Яўхім Іванавіч Баханькоў) не вагаюцца — ці паспрабаваць адседзецца ў запечку, ці самім засланяць, ачышчаць сваю зямлю ад навалы. Бацька і сын ідуць у партызаны, толькі старэйшы апынецца ў адным, а маладзейшы — у другім атрадзе... Падчас лютай блакады Полацка-Лепельскай партызанскай зоны дзядуля разам з дзяўчынкай-пляменніцай загінуць, закіданыя ў лясной зямлянцы гранатамі фашыстоўскіх карнікаў. А сын разам з байцамі брыгады імя Варашылава будуць якраз на вастрыі атакі падчас прарыву смяротнага варожага кальца.

На месцы тых баёў у гонар і памяць пабрацімаў Арцёма, што палеглі падчас жорсткай бітвы, ля полацкай вёскі Гомель паўстаў мемарыял. Прыходзячы сюды на паклон, чытаючы на камені знаёмыя прозвішчы сяброў, бацька моўчкі заглыбляўся ў свае думы. Яму было цяжка гаварыць, заглушыць несціханы боль ад усведамлення, якой страшнай цаной здабывалася Перамога...

Аб тым, што ён перажываў у такія моманты, можна было хіба толькі здагадвацца. Наогул не любіў гаварыць пра вайну. Яна ад яго не адступала, была ўсё яшчэ тут, ля самага сэрца. На мае просьбы-прыставанні напісаць кнігу ўспамінаў аб тых часах папросту адмахваўся.

— Ат, што я такое напішу, чаго б не ведалі, не бачылі, не вынеслі ўсе, хто праз яе прайшоў? Ну, можа, як-небудзь потым, калі мірныя справы перараблю, — суцяшаў ён мяне, засмучанага мяккай, але рашучай адмовай. Дагэтуль шкадую, што не ўгаварыў яго, не пераканаў: гэта трэба нам, хто не ведаў і, дай Бог, не зведае вайны.

Каб не зжаўцелая ад часу выразка з франтавой газеты (Арцём Баханькоў, выйшаўшы з партызанскага лесу пасля злучэння з часцямі Савецкай Арміі пры выгнанні гітлераўцаў з Віцебшчыны, пайшоў дабіваць ворага), мы так бы і не даведаліся пра "матросаўскі" подзвіг байца, які цудам ацалеў тады пад градам куль. Аднаго разу, калі нямецкі кулямёт шалёна паліваў шэрагі наступаўшых нашых салдат, прыціснуўшы іх да зямлі, Арцём ускочыў на ногі. З крыкам "За мной, наперад!" і рынуўся проста на варожае гняздо, закідаў яго гранатамі. І рота ўзнялася, кінулася ў перапыненую было атаку... Ён адплаціў за свайго бацьку.

Адважных, кажуць, куля не бярэ, аднак рэальнасць куды больш суровая. Тры раненні, баявыя ўзнагароды, падзякі ад высокага ваеннага камандавання сведчаць пра мужнасць і стойкасць байца, што прайшоў агнявымі дарогамі ад званка да званка да Перамогі і сустрэў яе ў 21 год на тэрыторыі вызваленай Румыніі. Негаваркі на тэму "подзвігаў" Арцём Яфімавіч тым не менш вельмі даражыў двума медалямі "За отвагу" (франтавікі добра ведаюць, што — за імі, прыроўненымі ў народзе да салдацкай Зоркі Героя). Даражыў памятным гадзіннікам "Победа", атрыманым падчас святкавання адной з юбілейных гадавін 9 Мая.

## Музыка

Маці расказвала, што бацька з вайны прывёз трафей — скрыпку. Падабраў, немаведама як ацалелую, на развалінах унушальнага дома — магчыма, былой філармоніі...

Інструмент быў стары, нехлямяжы — ну хіба можна на ім іграць? Але варта было толькі ўзяць у рукі смык ды правесці ім па струнах, як адбывалася зусім незразумелае, дзівоснае: скрыпка спявала жывым чалавечым голасам, яе пранікнёныя мелодыі кранalі сэрца. Вяскоўцы і ўсе, хто слухаў гэтыя боскія гукі, плакалі і казалі, што ніколі падобнага не чулі. Пэўна, так напакутаваліся за недалёкі яшчэ час ліхалецця, так прасіла душа прыгожага, узвышанага, што было патрэбна не менш як хлеб, як паветра, як жыццё.

На роспыты, дзе гэта Арцём навучыўся так іграць, той збянтэжана-прабачальна ўсміхаўся:

— Хіба ж гэта ігра? Вось бы сапраўднага майстра пачуць, каб скрыпачка ў яго руках апынулася...

Тады мо і сам не здагадваўся, што насамрэч стане майстрам — ды якім! — у любой справе, за якую ні возьмецца. Нічога, што прафесіяналам-музыкантам не стаў — іншы клопат закруціў. А музыку любіў праз усё жыццё. Як палюбіў яе пазней і я — толькі музыку сапраўдную, незалежна ад жанру. Класічную — найперш.

...Са школы ў родным Саламір'і Арцёма Яфімавіча Баханькова перавялі ў вёску Гомель, бліз якой партызаніў. Дырэктар і выкладчык беларускай мовы, заняты вышэй галавы педагагічнай, арганізатарскай ды гаспадарчай дзейнасцю, ва ўсім імкнуўся дасягнуць вышэйшай планкі. Гэта яму цудоўна ўдавалася, бо даўно спасціг ісціну: век жыві — век вучыся. Ён вучыўся, без супыну ўдасканальваючы веды па сваёй спецыяльнасці — беларусістыцы. Скончыў завочна аспірантуру пры тагачасным педінстытуце (цяпер Дзяржуніверсітэт імя М.Танка), наведваўся ў бібліятэку Акадэміі навук, пазнаёміўся з аўтарытэтнымі ў галіне даследаванняў па роднай мове навукоўцамі.

Творчая няўрымслівасць, памкненне да новага рабілі яго школьныя ўрокі цікавымі, яркімі, захапляльнымі. Ён дапамагаў ім адчуць красу і спеўнасць роднага слова, перадаваў сваю бязмежную любоў да яго. І быў шчаслівы. А ў адзін цудоўны міг гэтае ўздымнае пачуццё перапоўніла ўсю істоту, азарыла жыццё да апошняга дня. У кабінет дырэктара ўвайшла з дакументамі новая настаўніца геаграфіі і біялогіі, выпускніца Магілёўскага педінстытута. Маладыя людзі толькі зірнулі адно на аднаго — і ўсё: каханне з першага погляду злучыла абодвух назаўжды. Пасля таго як у 2001 годзе бацькі не стала, мама неўзабаве пайшла за ім...

...А ў далёкім ужо 1950-м з'явіўся на свет я. Толькі не ў Гомлі (так кажуць мясцовыя людзі), а ў Саламір'і, у той жа хаце, дзе нарадзіўся бацька. Перад родамі маму, Валянціну Усцінаўну, ён адвёз пад апеку сваёй маці. А сам, урываючы час ад сну, пачаў ставіць свой дом — у разліку на вялікую сям'ю. І зладзіў усё сваімі рукамі як мае быць, адмыслова і дыхтоўна, бы толькі і рабіў, што будаваў, будаваў.

А ўдумацца — так яно і было: будаўнік, стваральнік ён быў па прызванні. І ў сям'і разам з маці стварыў такую аўру, што дзеці купаліся ў моры цяпла і клопату. Гэта ляпіла нашы характары, уплывала на будучыню, калі мы яшчэ не ўсведамлялі гэта.

У доме, як і ва ўсім наваколлі, панавала крынічная беларуская мова, я чуў яе паўсюль. Вёска была захавальніцай народных традыцый і моўнага багацця. Роднае, мілагучнае слова гучала для мяне музыкай, яна была разліта кругом. Настаўнік ведаў: без гэтай музыкі любы, нават самы "вытрыманы" ўрок — усяго толькі фармальная граматычная муштра. Стаўшы бацькавым вучнем, я зайздросціў сам сабе, хаця часам і крыўдзіўся: чаму гэта да мяне ён ставіцца куды больш патрабавальна, чым да ўсіх?

Пачварная трасянка на той час яшчэ не абражала слых, як і агрэсіўна-бяздумная "цывілізацыя", што цяпер нярэдка так жорстка нявечыць і зямлю, і паветра, і душы людскія. Бяда, што далёка не ўсе разабраліся, якая глабальная разбуральная небяспека напаўзае на нас разам са стратай духоўнасці і яе абярэга — мовы гэтай зямлі.

## Чужыя чарэшні

На пачатку 1960-х настаўнік з Полаччыны Арцём Яфімавіч Баханькоў абараніў кандыдацкую дысертацыю і быў запрошаны на працу ў акадэмічны Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа. Трэба ж — з вёскі, звычайнай школы ў глыбінцы — у Акадэмію навук! Гэта напачатку здзіўляла некаторых. Але, убачыўшы інтэлект, эрудыцыю і глыбокую інтэлігентнасць новага таварыша, яго апантанасць у служэнні любімай справе, як і справядлівасць, шчырасць у чалавечых стасунках, палюбілі гэтак жа, як і землякі.

Бацьку не спатрэбілася шмат часу, каб увайсці ў вялікім горадзе ў сваю каляіну, адчуць сябе на сваім месцы, пераадольваючы комплекс правінцыйнасці. Не было чаго пераадольваць! Бо "правінцыйнасць", якой, бывае, так саромеюцца і ад якой стараюцца адхрысціцца выхадцы з вёскі, — паняцце зусім не геаграфічнае. А знаёмства з яркімі, таленавітымі людзьмі сілкавала яго творчую энергію. Асабліва зблізіўся ён з пісьменнікамі Алесем Адамовічам, Іванам Чыгрынавым. Тыя часцяком заходзілі на агеньчык гасціннай кватэры, гаспадары якой частавалі не толькі гарбатай, а і сардэчнай размовай аб тым, што ўзрушала, хвалявала. Ім было цікава разам!

Я ж, прызнацца, не так паспяхова, як бацька, уліваўся ў гарадское жыццё: не хапала мне сельскага прыволля, прастору.

Павёў ён мяне аднойчы ў Оперны на "Лебединое" — з чаго ж яшчэ пачынаць далучэнне да вялікага мастацтва, якое бацьку надзвычай вабіла і якога яму раней вельмі неставала. Ён, бачу, увесь ператварыўся ў слых, ловіць кожны музычны момант і паварот балетнага дзейства. А я кручуся ў крэсле, разглядваю аздобу тэатральнай залы. На сцэну — амаль ніякай увагі, ды і музыку не слухаю (во дурань быў!). Думаю: ну што гэта за "лебедзі"? Не жывыя ж, як на сапраўдным возеры. Лепш ужо, чым у тэатры гэтым, з дваровай кампаніяй мяч паганяць, ці што? Ды дзе ты ў гарадскім двары, сярод каменных вулляў разгорнешся-паганяеш, адна маята...

Усё ж неяк з новым дружбаком Лёнікам прыдумалі сабе занятак. У садзе суседняга дома нагледзелі разгалістую чарэшню, усю ўсыпаную спакуслівымі спелымі ягадамі. Чаму ж не паласавацца? Падумаеш, агароджа высокая, а ў знакамітым, вядомым усім доме жыў сам Якуб Колас? Ну і што, што тут ужо музей, а ў доме яшчэ жыве з сям'ёй сын народнага пісьменніка Даніла Канстанцінавіч, а з ім бацька мой знаёмы? Карацей, дамовіліся — справу даводзім да канца, вечарам ідзём красці!

На бяду, усё пайшло не па плане. Плот дык мы спрытна перамахнулі, а пра асцярожнасць-канспірацыю, неафіты неспрактыкаваныя, забыліся. Шамацелі лістотай, перагукваліся, пакуль з дома не пачуўся нечы голас:

— Косцік, ідзі глянь — здаецца, злодзеі ў садзе!

На ганак няспешна выйшаў Косцік, сын Данілы Міцкевіча. Спыніўся. Аднак угледзеўшы "гасцей", чамусьці з месца не скрануўся, не стаў хапаць за каршэнь. Толькі выгукнуў, каб заспакоіць сямейнікаў:

— Ды якія тут злодзеі? Жэўжыкі звычайныя, як і мы калісьці.

Ашаломленыя, мы з сябрукамі не надта ўжо і паспяшаліся даць драла. Хай прыгода не ўдалася, але які ж, аказваецца, разумны, панятлівы ўнук вырас у класіка! Пэўна, і кніжкі разумныя гэты Колас пісаў, а я, ёлуп такі, праходзіў іх па школьнай праграме пятае праз дзясятае...

З тае прыгоды і пачалося маё сапраўднае знаёмства з творамі Коласа і іншых майстраў беларускага прыгожага пісьменства. Гэтае захапленне не пакідае мяне дагэтуль. І сам стаў пісаць вершы. Так што праваленая "аперацыя Ы" пайшла, як ні дзіўна, мне на карысць. А ад бацькі, якому прызнаўся тады ж у сваім "подзвігу", атрымаў чарговы — ненавязлівы, без крыку і гневу — запамінальны ўрок пранікнення ў сэнс слоў.

— Сынок, ты ж ведаеш: род наш, Баханьковых, — старадаўні, паважаны. Заплямішся хоць драбязой безразважна — не толькі табе знявага. Ну калі так ужо чаго захочацца — то лепш папрасі, а яшчэ лепш — чэсна зарабі ці зрабі сам...

Больш паўтараць настаўленне не было прычыны. Бацька ведаў, што гаварыў. Ён больш за ўсё любіў бескарысліва-шчодра аддаваць, дарыць. Не з купецкім шыкам напаказ, а з чуласцю да людскіх, ды не чужых патрэб, нястач, бядоты. Перасяляўся з Саламір'я ў Гомель — аддаў проста так, без капейкі, хату-калыску, дзе мы абое з ім нарадзіліся і раслі, беспрытульнаму вясковаму небараку: жыві на здароўе, толькі зрабіся больш шчаслівым. Перавозіў пазней сям'ю з Гомля ў горад — зноў пакінуў сваё, збудаванае ўласнаручна жытло, на добрую памяць добраму чалавеку. Старую ж любімую скрыпку ўручыў першаму на вёсцы музыку Петрачку.

Праводзілі яго ўсёй вёскай — дарослыя, дзеці. Развітваліся з Чалавекам і Настаўнікам са шкадаваннем і бясконцай удзячнасцю, зычаннем ісці далей у навуку, яшчэ больш зрабіць для асвятлення чалавечых душ і сэрцаў. Так яно і сталася.

## Спадчына

Тры рэчы перадаў мне бацька са словам "Беражы", што я і раблю. Ён імі вельмі даражыў.

Першая рэч — ужо згаданы памятны гадзіннік "Победа".

Другая — старадаўні, выдадзены ў Кіеве дзесьці яшчэ ў пазамінулым веку фаліянт на аздобленай залачоным вязьмом вокладцы было выціснута "Псалтиръ", звод Божай мудрасці, да якой цягнуўся бацька. Асэнсоўваючы яго жыццё, усё ясней бачу, хоць і не да канца спасцігнуў, супярэчнасць: ён быў камуністам, а ва ўсім — вялікім і малым — следаваў хрысціянскім запаветам. Толькі без фанатызму і няшчырай дэкларатыўнай паказухі. У ім, думаю, ішла напружаная ўнутраная перабудова, пераацэнка каштоўнасцяў. Шкадую, што аб гэтым мы не паспелі з ім пагаварыць.

...Вось і трэцяя дарагая рэч: сціпленькая паштоўка з зімовым малюнкам на адным баку — птушка гойдаецца на аснежанай галінцы. На другой знаёмым каліграфічным почыркам выведзены простыя, зразумелыя нават трохгадоваму дзіцяці, словы пажадання: "Расці добрым, харошым і вясёлым, як гэты верабейка". Надпіс зроблены ў памятны дзень, калі ў Аляксандра-Неўскай царкве мы хрысцілі свайго Антосіка.

Галоўны бацькаў запавет і ўрок не толькі ўласным дзецям — будзь на зямлі Чалавекам! Ён увасабляў яго кожным крокам. Помню, пайшлі неяк з ім па яблыкі на Камароўку, вяртаемся з паўнюткімі сумкамі сакавітых, прыгажэнных антонавак. Нечакана перад самым выхадам бацька спыніўся ля бабулі з кашом зялёных дробных дзічак. Бачу — перасыпае іх у запасную тару, дзякуе, шчодра разлічваецца. Я не даўмеўся: навошта? "А ты ўглядзіся ўважлівей: старая, зануpаная сялянка прывезла ў горад назбіраных дзічак, бо не мае больш чаго прадаць. Ніхто не купляе, а ў яе мо на хлеб капейкі няма. Дык што, пройдзем міма, бы нічога і не заўважылі?"

Гэты маленькі эпізод, здавалася б, будзённы і нязначны, многае ўва мне перавярнуў і перайначыў — дзякуй табе, дарагі!

Неацэнным ягоным дарам — любоў да роднай мовы, якую і я перадаў сваім сынам, разуменне, што яе не заменіш нічым і ніколі. Горка, а то і смешна чуць цемрашальскія катэгарычныя сцвярджэнні, нібыта яна бедная і нікчэмная, ну проста ляжыць на шляху прагрэсу, засвойвання навукова-тэхнічных інавацый, якія ідуць у Беларусь выключна праз рускую мову. Элементарнае глупства! Чаму "ці—ці", калі патрэбна "і—і"?

Акрамя сваёй і рускай, я валодаю яшчэ некалькімі: літоўскай, балгарскай, польскай, чэшскай, нямецкай, англійскай. Мае навуковыя артыкулы па праблемах сучаснай фізікі друкуюцца ў Лондане, Варшаве, Берліне, чытаю сам падобныя выданні розных краін. Бацька ж ведаў амаль усе славянскія мовы і ў сваіх паездках па Еўропе наогул не меў патрэбы карыстацца паслугамі перакладчыкаў. Як родная мова можа зашкодзіць асобе і грамадству развівацца, расці, дасягаць недасягальнага, калі на самай справе — усё наадварот?

Часам спрачаюся сам з сабою: а можа, я няправільна зрабіў, што прафесійна не пераняў бацькаву справу? Здагадваюся — ён быў бы рады. Але не ціснуў на мяне, даваў свабоду выбару. Мяне ж у апошнія школьныя гады захапіла фізіка, якую любіў і люблю. Тым болей што сур'ёзны занятак ёю не падаўляе мае іншыя схільнасці. Ужо не першы год, счараваны мамінымі кулінарнымі цудадзействамі, зацікавіўся шэдэўрамі і малавядомымі рэцэптамі беларускай кухні, дзе з самых звыклых, простых інгрэдыентаў ствараецца смаката. Выдаю і перавыдаю такія кнігі, адна з апошніх — "150 страў з маладой бульбы". Для многіх гэта ўсё яшчэ — цёмны лес, невядомы востраў...

Не стамлюся дзякаваць бацькам за ўсё, чым я ёсць сёння. Іх гены ў тым "вінаватыя"! Духоўны абсяг чалавека, напоўненасць яго ўнутранага жыцця, чысціня помыслаў і ўчынкаў заўсёды была для іх на першым плане. І пра кожнага з іх, любых і родных, хочацца сказаць шэкспіраўскімі словамі: "Ён чалавек быў у поўным сэнсе слова". Таму і здолеў прыадкрыць мне бязмежны Космас таго святога, што завецца Радзімай...

*Што дадаць да гэтага аповеду? Хіба адно: гэта шчасце, што нам ёсць пра каго расказваць, хто ў мінулым і сёння, побач з намі, творыць напоўніцу дзеля Беларусі, яе годнай будучыні. Нізкі паклон і любасць вам усім, мы ганарымся вамі!*

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**



Сям'я Баханьковых (1950-я гады): Арцём Яфімавіч і Валянціна Усцінаўна з дзецьмі Сашам і Людачкай.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
4 ЛЮТАГА 2014 г.

ОЛИМПИАДА-2014

# Поехали!

## 7 февраля в Сочи стартуют XXII зимние Олимпийские игры.

Предлагаем вашему вниманию расписание Олимпиады.

### Биатлон

| Дата проведения | Старт | Название соревнования |
|---|---|---|
| 08.02.2014 | 17.30 | Спринт (мужской) |
| 09.02.2014 | 17.30 | Спринт (женский) |
| 10.02.2014 | 18.00 | Гонка преследования (мужская) |
| 11.02.2014 | 18.00 | Гонка преследования (женская) |
| 13.02.2014 | 17.00 | Индивидуальная гонка (мужская) |
| 14.02.2014 | 17.00 | Индивидуальная гонка (женская) |
| 16.02.2014 | 18.00 | Масс-старт (мужской) |
| 17.02.2014 | 18.00 | Масс-старт (женский) |
| 19.02.2014 | 17.30 | Смешанная эстафета |
| 21.02.2014 | 17.30 | Эстафета (женская) |
| 22.02.2014 | 17.30 | Эстафета (мужская) |

### Бобслей

| Дата проведения | Начало | Название соревнования |
|---|---|---|
| 16.02.2014 | 17.30 | Мужской заезд 1 и 2 (двойки) |
| 17.02.2014 | 17.45 | Мужской заезд 3 и 4 (двойки) |
| 18.02.2014 | 19.15 | Женский заезд 1 и 2 (двойки) |
| 19.02.2014 | 19.15 | Женский заезд 3 и 4 (двойки) |
| 22.02.2014 | 19.00 | Мужской заезд 1 и 2 (четверки) |
| 23.02.2014 | 12.30 | Мужской заезд 3 и 4 (четверки) |

### Горнолыжный спорт

| Дата проведения | Начало | Название соревнования |
|---|---|---|
| 09.02.2014 | 10.00 | Мужской скоростной спуск |
| 10.02.2014 | 10.00<br>14.00 | Женская суперкомбинация |
| 12.02.2014 | 10.00 | Женский скоростной спуск |
| 14.02.2014 | 10.00<br>14.30 | Мужская суперкомбинация |
| 15.02.2014 | 10.00 | Женский супергигант |
| 16.02.2014 | 10.00 | Мужской супергигант |
| 17.02.2014 | 10.00<br>13.30 | Женский гигантский слалом |
| 18.02.2014 | 10.00<br>13.30 | Мужской гигантский слалом |
| 21.02.2014 | 14.30<br>18.00 | Женский слалом |
| 22.02.2014 | 14.30<br>18.00 | Мужской слалом |

### Конькобежный спорт

| Дата проведения | Время проведения | Мужской забег | Женский забег |
|---|---|---|---|
| 08.02.2014 | 14.30 | 5000 метров | |
| 09.02.2014 | 14.30 | | 3000 метров |
| 10.02.2014 | 16.00 | 500 метров | |
| 11.02.2014 | 15.45 | | 500 метров |
| 12.02.2014 | 17.00 | 1000 метров | |
| 13.02.2014 | 17.00 | | 1000 метров |
| 15.02.2014 | 16.30 | 1500 метров | |
| 16.02.2014 | 17.00 | | 1500 метров |
| 18.02.2014 | 16.00 | 10.000 метров | |
| 19.02.2014 | 16.30 | | 5000 метров |
| 21.02.2014 | 16.30 | Командная гонка | Командная гонка |
| 22.02.2014 | 16.30 | Командная гонка | Командная гонка |

### Лыжное двоеборье

| Дата проведения | Начало | Наименование соревнования |
|---|---|---|
| 12.02.2014 | 11.30 | Индивидуальная гонка, нормальный трамплин (мужчины) |
| | 15.30 | Индивидуальная гонка, нормальный трамплин (мужчины) |
| 18.02.2014 | 12.00 | Индивидуальная гонка, большой трамплин (мужчины) |
| | 15.00 | Индивидуальная гонка, большой трамплин (мужчины) |
| 20.02.2014 | 10.30 | Командное первенство, большой трамплин (мужчины) |
| | 14.00 | Командное первенство (мужчины) |

### Лыжные гонки

| Дата проведения | Начало | Наименование соревнования |
|---|---|---|
| 08.02.2014 | 13.00 | Скиатлон (женщины) |
| 09.02.2014 | 13.00 | Скиатлон (мужчины) |
| 11.02.2014 | 13.00 | Спринт (мужской) |
| 11.02.2014 | 15.00 | Спринт (женский) |
| 13.02.2014 | 13.00 | Раздельный старт (женский) |
| 14.02.2014 | 13.00 | Раздельный старт (мужской) |
| 15.02.2014 | 13.00 | Эстафета (женская) |
| 16.02.2014 | 13.00 | Эстафета (мужская) |
| 19.02.2014 | 12.15 | Командный спринт (женщины) |
| 19.02.2014 | 14.45 | Командный спринт (мужчины) |
| 22.02.2014 | 12.30 | Масс-старт (женский) |
| 23.02.2014 | 10.00 | Масс-старт (мужской) |

### Прыжки с трамплина

| Дата проведения | Начало | Наименование соревнования |
|---|---|---|
| 08.02.2014 | 19.30 | Нормальный трамплин, квалификация (мужчины, личное первенство) |
| 09.02.2014 | 20.30 | Нормальный трамплин, финал (мужчины, личное первенство) |
| 11.02.2014 | 20.30 | Нормальный трамплин (женщины, личное первенство) |
| 14.02.2014 | 20.30 | Большой трамплин, квалификация (мужчины, личное первенство) |
| 15.02.2014 | 20.30 | Большой трамплин, финал (мужчины, личное первенство) |
| 17.02.2014 | 20.15 | Большой трамплин (мужчины, командное первенство) |

### Санный спорт

| Дата проведения | Начало | Название соревнования |
|---|---|---|
| 08.02.2014 | 17.30 | Мужской спуск 1 и 2 (одиночки) |
| 09.02.2014 | 17.30 | Мужской спуск 3 и 4 (одиночки) |
| 10.02.2014 | 17.30 | Женский спуск 1 и 2 (одиночки) |
| 11.02.2014 | 17.30 | Женский спуск 3 и 4 (одиночки) |
| 12.02.2014 | 17.30 | Мужской спуск 1 и 2 (двойки) |
| 13.02.2014 | 17.30 | Смешанная эстафета |

### Скелетон

| Дата проведения | Начало | Название соревнования |
|---|---|---|
| 13.02.2014 | 10.30 | Женский заезд 1 и 2 |
| 14.02.2014 | 15.30 | Мужской заезд 1 и 2<br>Женский заезд 3 и 4 |
| 15.02.2014 | 17.45 | Мужской заезд 3 и 4 |

### Сноуборд

| Дата проведения | Начало | Наименование соревнования |
|---|---|---|
| 06.02.2014 | 9.00 | Слоуп-стайл — квалификация (женщины и мужчины) |
| 08.02.2014 | 11.45 | Слоуп-стайл — проведение финала для мужчин |
| 09.02.2014 | 12.15 | Слоуп-стайл — проведение финала для женщин |
| 11.02.2014 | 20.30 | Хаф-пайп — финал для мужчин |
| 12.02.2014 | 20.30 | Хаф-пайп — финал для женщин |
| 16.02.2014 | 12.15 | Бордеркросс — финал для женщин |
| 17.02.2014 | 12.30 | Бордеркросс — финал для мужчин |
| 19.02.2014 | 12.00 | Гигантский параллельный слалом — финал для женщин и мужчин |
| 22.02.2014 | 12.15 | Параллельный слалом — финал для женщин и мужчин |

### Фигурное катание

| Дата проведения | Начало | Наименование соревнования |
|---|---|---|
| 06.02.2014 | 18.30 | Короткая программа одиночного катания (мужчины, командное)<br>Короткий танец на льду (командное)<br>Короткая программа одиночного катания (женщины, командное)<br>Произвольная программа парного катания (командное) |
| 08.02.2014 | 17.30 | Короткий танец на льду (командное)<br>Короткая программа одиночного катания (женщины, командное)<br>Произвольная программа парного катания (командное) |
| 09.02.2014 | 18.00 | Произвольная программа одиночного катания (мужчины, командное) |
| | | Произвольная программа одиночного катания (женщины, командное)<br>Произвольный танец на льду (командное) |
| 11.02.2014 | 18.00 | Короткая программа парного катания |
| 12.02.2014 | 18.45 | Произвольная программа парного катания |
| 13.02.2014 | 18.00 | Короткая программа одиночного катания (мужчины) |
| 14.02.2014 | 18.00 | Произвольная программа одиночного катания (мужчины) |
| 16.02.2014 | 18.00 | Короткий танец на льду |
| 17.02.2014 | 18.00 | Произвольный танец на льду |
| 19.02.2014 | 18.00 | Короткая программа одиночного катания (женщины) |
| 20.02.2014 | 18.00 | Произвольная программа одиночного катания (женщины) |
| 22.02.2014 | 19.30 | Гала-концерт |



Дарья Домрачева.

### Фристайл

| Дата проведения | Начало | Наименование соревнований |
|---|---|---|
| 06.02.2014 | 17.00 | Могул, квалификация (женщины) |
| 08.02.2014 | 17.00<br>21.00 | Могул, квалификация (женщины)<br>Могул, финал (женщины) |
| 10.02.2014 | 17.00<br>21.00 | Могул, квалификация (мужчины)<br>Могул, финал (мужчины) |
| 11.02.2014 | 9.00<br>12.00 | Слоуп-стайл, квалификация (женщины)<br>Слоуп-стайл, финал (женщины) |
| 13.02.2014 | 9.15<br>12.30 | Слоуп-стайл, квалификация (мужчины)<br>Слоуп-стайл, финал (мужчины) |
| 14.02.2014 | 16.45<br>20.30 | Акробатика, квалификация женщины)<br>Акробатика, финал (женщины) |
| 17.02.2014 | 16.45<br>20.30 | Акробатика, квалификация (мужчины)<br>Акробатика, финал (мужчины) |
| 18.02.2014 | 16.45<br>20.30 | Хаф-пайп, квалификация мужчины)<br>Хаф-пайп, финал (мужчины) |
| 20.02.2014 | 10.45<br>12.30<br>17.30<br>20.30 | Ски-кросс, квалификация (мужчины)<br>Ски-кросс, финал (мужчины)<br>Хаф-пайп, квалификация (женщины)<br>Хаф-пайп, финал (женщины) |
| 21.02.2014 | 10.45<br>12.30 | Ски-кросс, квалификация (женщины)<br>Ски-кросс, финал (женщины) |

### Шорт-трек

| Дата проведения | Начало | Наименование соревнования |
|---|---|---|
| 10.02.2014 | 12.45 | Эстафета на 3000 метров (женщины)<br>Забег на 500 метров (женщины)<br>Забег на 1500 метров (мужчины) |
| 13.02.2014 | 13.00 | Эстафета на 5000 метров (мужчины)<br>Забег на 1000 метров (мужчины)<br>Забег на 500 метров (женщины) |
| 15.02.2014 | 13.00 | Забег на 1500 метров (женщины)<br>Забег на 1000 метров (мужчины) |
| 18.02.2014 | 12.30 | Забег на 1000 метров (женщины)<br>Забег на 500 метров (мужчины)<br>Эстафета на 3000 метров (женщины) |
| 21.02.2014 | 19.30 | Забег на 1000 метров (женщины)<br>Забег на 500 метров (мужчины)<br>Эстафета 5000 метров (мужчины) |

### Хоккей

**12 февраля 2014 года, среда**
Группа А. 1-й тур в 20.00 Чехия—Швеция (“Большой”)
Группа А. 1-й тур в 20.00 Латвия—Швейцария (“Шайба”)

**13 февраля 2014 года, четверг**
Группа В. 1-й тур в 11.00 Финляндия—Австрия (“Большой”)
Группа С. 1-й тур в 15.30 Россия—Словения (“Большой”)
Группа В. 1-й тур в 20.00 Словакия—США (“Шайба”)
Группа С. 1-й тур в 20.00 Канада—Норвегия (“Большой”)

**14 февраля 2014 года, пятница**
Группа А. 2-й тур в 11.00 Чехия—Латвия (“Большой”)
Группа А. 2-й тур в 15.30 Швеция—Швейцария (“Большой”)
Группа В. 2-й тур в 20.00 Канада—Австрия (“Большой”)
Группа В. 2-й тур в 20.00 Норвегия—Финляндия (“Шайба”)

**15 февраля 2014 года, суббота**
Группа С. 2-й тур в 11.00 Словакия—Словения (“Большой”)
Группа С. 2-й тур в 15.30 США—Россия (“Большой”)
Группа А. 3-й тур в 20.00 Швейцария—Чехия (“Большой”)
Группа В. 3-й тур в 20.00 Швеция—Латвия (“Шайба”)

**16 февраля 2014 года, воскресенье**
Группа С. 3-й тур в 11.00 Австрия—Норвегия (“Большой”)
Группа В. 3-й тур в 15.30 Россия—Словакия (“Большой”)
Группа А. 3-й тур в 20.00 Финляндия—Канада (“Большой”)
Группа С. 3-й тур в 15.30 Словения—США (“Шайба”)

**18 февраля 2014 года, вторник**
Квалификация плей-офф в 11.00 (Большой ледовый дворец “Большой”)
Квалификация плей-офф в 15.30 (Большой ледовый дворец “Большой”)
Квалификация плей-офф в 20.00 (Большой ледовый дворец “Большой”)
Квалификация плей-офф в 20.00 (Ледовая арена “Шайба”)

**19 февраля 2014 года, среда**
F1. Четвертьфинал в 11.00 (Большой ледовый дворец “Большой”)
F2. Четвертьфинал в 15.30 (Большой ледовый дворец “Большой”)
F3. Четвертьфинал в 20.00 (Большой ледовый дворец “Большой”)
F4. Четвертьфинал в 20.00 (Ледовая арена “Шайба”)

**21 февраля 2014 года, пятница**
F1-F4. Полуфинал в 13.00 (Большой ледовый дворец “Большой”)
F2-F3. Полуфинал в 20.00 (Большой ледовый дворец “Большой”)

**22 февраля 2014 года, суббота**
Матч за третье место в 18.00 (Большой ледовый дворец “Большой”)

**23 февраля 2014 года, воскресенье**
Финал в 15.00 (Большой ледовый дворец “Большой”)

СКАНДАЛ

## Андрэй МІХНЕВІЧ: «Жонка прымала допінг на шостым месяцы цяжарнасці? Поўная бязглуздзіца!»

*Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі абвясціла, што за ўжыванне допінгу на 2 гады дыскваліфікавана беларуская чэмпіёнка свету і Еўропы ў штурханні ядра, сярэбраны прызёр Алімпійскіх гульняў у Пекіне Наталля МІХНЕВІЧ.*

Сярод дыскваліфікаваных беларусаў яшчэ два спартсмены — малатабоец **Андрэй Варанцоў** і марафонка **Вольга Рэзкая**. Пры гэтым Варанцова чакае пажыццёвая дыскваліфікацыя.

Пікантнасць сітуацыі з Наталляй заключаецца ў тым, што ў мінулым годзе пажыццёва дыскваліфікаваны і яе муж **Андрэй МІХНЕВІЧ** — бронзавы прызёр Гульняў у Пекіне ў штурханні ядра. Апошні і пракаментаваў “Народнай Волі” скандальную сітуацыю вакол сваёй жонкі.

— Уся гэта гісторыя мае вельмі непрыемны пах, — кажа ён. — На той час, калі ў Наталлі бралі на кантроль допінг, яна ўжо была на шостым месяцы цяжарнасці. Самі разумееце, што азначае цяжарнасць для любой жанчыны. І абвінавачваць яе затым, што яна нешта прымала... Поўная бязглуздзіца! Я разумею, што ў допінгавых службаў асаблівая “любоў” да беларускіх лёгкаатлетаў, але каментаваць гэта ўжо нават і не хочацца.

**— Чым Наталля зараз будзе займацца?**

— Тым, чым і раней займалася, — трэніравацца і рыхтавацца да Алімпійскіх гульняў у Бразіліі, якія пройдуць у 2016 годзе. А тэрмін дыскваліфікацыі ў жонкі заканчваецца вясной 2015 года. Ці дадуць ёй паўнацэнна рыхтавацца — гэта ўжо іншае пытанне. А тое, што ў яе сілах, яна зробіць.

**— У вас пажыццёвая дыскваліфікацыя, Наталля таксама зараз патрапіць у няпростую фінансавую сітуацыю…**

— Жонка не адносіцца да Міністэрства спорту, яна чалавек армейскі. А армія сваіх у бядзе ніколі не кідала. Ды і не грошы для Наташы галоўнае, а спорт. Яна нарадзіла, а ўжо праз месяц трэніравалася.

**— А вы знайшлі сабе нейкі занятак?**

— Скажам так: шукаю...

**Алесь СІВЫ.**



### ДАРЭЧЫ

Стала вядома, што Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі пастанавіла дыскваліфікаваць беларускіх лёгкаатлетаў **Надзею Астапчук** і **Івана Ціхана.**

Вердыкт антыдопінгавай камісіі, агучаны ў Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі, абвяшчае: *“У дачыненні да Надзеі Астапчук было прынята рашэнне аб чатырохгадовай дыскваліфікацыі спартсменкі. У дачыненні да Івана Ціхана яшчэ ў мінулым годзе пастанавілі аб двухгадовым адхіленні ад спаборніцтваў. Такія меры былі прыняты згодна з антыдопінгавымі правіламі”.*

Штурхальніца ядра Надзея Астапчук можа выйсці ў сектар 8 жніўня 2016 года. Іван Ціхан заявіў, што мае намер завяршыць кар’еру.

### УЛЫБНИТЕСЬ!

— Представляешь, Фима, вчера из театра кто-то ушел в моем пальто.
— Яша, мне таки интересно, кому же понадобилось твое старое рваное пальто?
— Не знаю, я ушел первым.

***

— Не могу понять, что у меня с зубами. В бесплатной клинике говорят, что они все здоровые. В частных — что лечить не перелечить...

***

Сотрудник приходит к шефу и говорит:
— Видите ли, в чем дело, моей зарплаты не хватает даже на то, чтобы жениться.
— Да, я это отлично знаю. И поверьте: когда-нибудь вы скажете мне за это спасибо.

***

Еврей показывает новый дом знакомому:
— Это спальня, здесь кухня... а эта большая комната — столовая. В ней могут поместиться, не дай бог если придут, 20 человек.

***

80-летнего старика приговорили к 20 годам тюрьмы.
В своем последнем слове он обратился к суду:
— Граждане судьи, спасибо за оказанное доверие!

***

Мир очень странный: картонная коробка для пиццы квадратная, сама пицца круглая, а порции — треугольные...



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл. (017) 3286871.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906, (029) 7753871
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 3.02.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27020 экз. Заказ №593.